ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# НІЗАВЫ ПАРТРАБОТНІК

ЖУРНАЛ ГОМЕЛЬСКАГА ГК КП(б)Б



ДАБІЦЦА ТАГО, КАБ АРГАНІЗАЦЫИНАЕ КІРАЎНІЦТВА ПОЎНАСЦЮ ЗАБЯСПЕЧВАЛА ПРАВЯДЗЕННЕ Ў ЖЫЦЦЕ ПАЛІТЫЧНЫХ ЛОЗУНГАЎ І РАШЭННЯЎ ПАРТЫІ.

Сталін.



№ 4 20 мая 1934

ВЫДАННЕ „ПАЛЕСКАЙ ПРАЎДЫ"

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# НІЗАВЫ ПАРТРАБОТНІК

20 МАЯ 1934 г.

№ 4

ЖУРНАЛ ГОМЕЛЬСКАГА ГК КП(б)Б

ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЧНА

# АЎЛАДЗЕЦЬ БОЛЬШЭВІЦКІМ СТЫЛЕМ АРГАНІЗАЦЫЙНА-ПРАКТЫЧНАГА КІРАЎНІЦТВА

**Да партыйнай нарады пры ЦК КП(б)Б аб перабудове партработы**

*Перамога ніколі не прыходзіць сама,—яе звычайна прыцягваюць. Добрыя рэзалюцыі і дэкларацыі за генеральную лінію партыі—гэта толькі пачатак справы, бо яны азначаюць толькі жаданне перамагчы, але не самую перамогу. Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дана правільнае рашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбору людзей, ад праверкі выканання рашэнняў кіруючых органаў.*

*З даклада т. Сталіна на XVII партз'ездзе.*

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ ПЕРАБУДОВЫ

З часу работ XVII з'езда партыі прайшло 4 месяцы. Тэрмін не дастатковы для таго, каб падвесці першыя вынікі перабудовы работы гомельскай партыйнай арганізацыі.

У дакладзе на XVII партыйным з'ездзе т. Кагановіч сказаў, што сутнасць перабудовы заключаецца ў тым, каб „перайсці ад агульнага і абстрактнага кіраўніцтва да канкрэтнага кіраўніцтва, ад агульных і абстрактных рэзалюцый да аператыўных рашэнняў, грунтуючыхся на вывучэнні дэталей і тэхнікі справы, цеснай жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва—цэх, участак, прадпрыемства, калгас, сяло, МТС, соўгас і т. д.“. У рэзультаце ўсяго гэтага мы павінны забяспечыць перамогу на ўсіх участках нашага гаспадарчага будаўніцтва.

Гомельская партыйная арганізацыя, выконваючы гэтае ўказанне, сваю перабудову пачала з самага апарату гаркома. Былі ліквідаваны аддзелы, падабраны штат інструктароў, да якіх прымацавалі партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў па галінаваму прынцыпу. Перабудаваўшы кіруючы апарат, уся ўвага была пераключана на перабудову нізавой партыйнай сеткі. Замест ячэек, парткалектываў парткомаў, створаны пярвічныя партыйныя арганізацыі на чале з парткомамі партыйным арганізатарам. Перагледжана ўся нізавая структура унутрыцэхавых брыгад. Падабраны лепшыя партыйныя сілы на работу цэхавых і групавых партыйных арганізатараў; праведзена вялікая работа па растлумачэнню сутнасці перабудовы. Перабудова праводзілася сістэматычна, пераходзячы ад адной парт-

арганізацыі — да другой, абагульваючы вопыт і выпраўляючы на-хаду дапушчаныя памылкі. Зараз у гомельскай партарганізацыі ёсць 48 парткомаў з 154 цэхавымі партарганізатарамі і 199 брыгаднымі групартарганізатарамі. Пярвічных партарганізацый, не маючых парткомаў,—45.

Разам з арганізацыйнай перабудовай партыйных арганізацый змяніўся і змест іх работы. Менш сталі засядаць; інструктары гаркома, сакратары парткомаў большую частку свайго рабочага часу ўдзяляюць цэху, групе, брыгадзе, вывучэнню новых людзей і справы. Ніколі яшчэ кіруючы орган—гарадскі камітэт партыі, не быў так блізка звязан з прадпрыемствамі, партарганізацыямі, людзьмі як зараз, ведаючы кожны дзень, што робіцца на прадпрыемствах, настрой рабочых, уваходзячы ва ўсе дэталі іх жыцця і работы.

У рэзультаце перабудовы мы маем шмат фактаў, якія сведчаць аб ажыўленні партыйна-масавай работы: канферэнцыя ліцейшчыкаў, у часе падрыхтоўкі і правядзення якой значна і паменшыўся процант браку на металаапрацоўчых прадпрыемствах: Сельмаш, „Пралетарый", „Рухавік рэволюцыі", канферэнцыя па асваенню новых машын на Сельмашы. Шырока разгарнулася на прадпрыемствах тэхнічная вучоба: на Сельмашы да 1 мая 427 рабочых здалі тэхэкзамен, на „Пролетарыі"—249, на шкляным заводзе ахоплена тэхвучобай 352 чалавекі, на Палесдруку здалі тэхэкзамен 198 чал., навучаецца ў 30 гуртках 516 чалавек. У Добрушы здалі экзамен 406, на фабрыцы „Праца"—167, і ахоплена зараз вучобай 516. На ўсіх прадпрыемствах за гэты час шырока быў прыменен вопыт здачы палітзалікаў па дакладу т. Сталіна. У Добрушы ўсе комуністы да 1 мая здалі палітзалікі і зараз прыступілі да прапрацоўкі даклада т. Кагановіча. На прадпрыемствах „Пролетарый", Палесдрук, фабрыка „Праца", камбінат імя Гікало, „Спартак" і інш. залікі па дакладу т. Сталіна будуць здадзены да 1 чэрвеня.

Буйнейшымі рэзультатамі перабудовы партыйнай работы з'яўляюцца такія паказальнікі, як выкананне ўпершыню ў красавіку месяцы промфінплана па прадпрыемствах горада на 102,5 проц. Вылезлі з прарыва такія прадпрыемствы, як Добрушская папяровая фабрыка, камбінат імя Гікало, фабрыкі „Комінтэрн", „Праца", панчошная фабрыка і іншыя.

Як ніколі, актыўна і змястоўна прайшлі такія вялікія палітычныя кампаніі, як рэалізацыя пазыкі і 1 мая. Пазыка была рэалізавана за 48 гадзін пры нябачанай актыўнасці ўсіх працоўных горада. На першамайскую дэманстрацыю вышла каля 60.000 рабочых, служачых са сваімі сем'ямі. Гэта—рэзультат вялікай падрыхтоўчай работы, праведзенай партыйнымі і профсаюзнымі арганізацыямі пасля перабудовы сваіх радоў.

Вечары дома ў рабочых, у клубах, сустрэчы лепшых ударнікаў спаборнічаючых прадпрыемстваў па праверцы соцдагавароў і ўзятых на сябе абавязацельстваў—вось чым былі насычаны дні першамайскіх свят.

У гэтым годзе ў падрыхтоўцы да першамайскіх свят аграмадная ўвага была ўдзелена чыстаце вуліц, двароў, кватэр, цэхаў і прадпрыемстваў. Усе партыйныя арганізацыі ўзначалілі барацьбу за чыстату. Па прадпрыемствах і ЖАКТ'ах былі праведзены суботнікі, усе дамы цэнтральных вуліц афарбаваны, азелянілі 57 двароў па гораду, і амаль кожнае прадпрыемства прывяло ў парадак і азеляніла свой двор. Смецця з жактаўскіх дамоў і кватэр рабочых было вывезена 7.127 вазоў. Гомель упершыню за сваё існаванне так пачысціўся да першамайскіх свят.

Побач з нядрэннымі паказальнікамі масавай, вытворчай і выхаваўчай работы парткомы моцна пачалі займацца і работай партарганізатараў. Як вынік, зараз на кожным прадпрыемстве ў нас ёсць цэлы шэраг выяўленых лепшых партарганізатараў, якія зразумелі і ажыццяўляюць рашэнні XVII партыйнага з'езда. На „Пролетарыі"—Смірноў, Колін, у Добрушы—Талкачоў, Цыганкоў, Бобрыкаў, Шапавалаў, па Палесдруку — Волкінд, Гіршына, Рабіновіч, Тарасевіч, па Сельмашу — Сокалаў, Жэлезнякоў, на шклозаводзе—Альшэўскі, на дрэвакамбінаце — Каган, Златкін, на фабрыцы „Праца" Нісембаум, на „Спартаку"— Калпін і рад іншых парторгаў. Парторгі сваёй работай у брыгадзе, цэху, работай над кожным комуністам і рабочым забяспечылі разгортванне выхаваўчай работы і выкананне і перавыкананне вытворчага плана.

Група лепшых парторгаў прадпрыемстваў гарадскім камітэтам партыі ў красавіку была прэміравана паездкай у Маскву для вывучэння вопыта партыйнай работы. Зараз гэты вопыт дадатнай работы большэвікоў Масквы робіцца здабыткам усёй нашай партарганізацыі.

Побач з гэтай дадатнай работай, якой дасягнула партарганізацыя ў выніку перабудовы сваёй работы, яшчэ і зараз мы маем цэлы рад недахопаў: слаба разгорнута парткомамі работа па арганізацыі груп спачуваючых, недастаткова займаемся якасцю партыйных сходаў, недастаткова чотка пастаўлена праверка выканання, няма належнага афармлення цэхаў і брыгад, якое-б адлюстроўвала іх работу.

Друкуемыя ў гэтым нумары часопіса матэрыялы аб вопыце работы лепшых партарганізатараў неабходна перанесці ва ўсе звенні работы ўсёй партыйнай арганізацыі з тым, каб штодзённай, упартай работай ліквідаваць маючыяся недахопы і ператварыць Гомель у сапраўды адзін з перадавых атрадаў большэвікоў Беларусі.

---

„Большэвік не можа абмежавацца простай верай у соцыялізм, падобна таму, як верыць рэлігійны чалавек у царства нябеснае. Не, большэвік—гэта член такой партыі, праграма, палітыка і тактыка якой будуюцца на строга навуковых асновах марксізма-ленінізма; большэвік—гэта той, хто разумее нязбежнасць краху капіталізма, нязбежнасць дыктатуры пролетарыята, забяспечваючай перамогу соцыялізма. Таму кожны член партыі павінен аўладаць асновамі марксізма-ленінізма".

(Л. КАГАНОВІЧ).

# Большэвіцкі стыль работы

Пасля перабудовы работы апарату гаркома я быў прызначан інструктарам гаркома КП(б)Б па прадпрыемствах лясной дрэваапрацоўчай прамысловасці і на будаўніцтва.

У маю групу уваходзіць 12 вытворчых адзінак: 5 дрэваапрацоўчых, 4 будаўнічыя, 3 лясныя поўвытворчыя адзінкі, на якіх работаюць 4.000 сталых рабочых і 2000 сезоннікаў. Партыйная праслойка складае ўсяго толькі ад 1 да 3 проц.

Гэтыя прадпрыемствы адстаючыя. Значная частка іх з-за дрэннай пастаноўкі работы не выконвае сваёй вытворчай праграмы. Я дэталёва азнаёміўся з прадпрыемствамі і тэхналагічнымі працэсамі работы, з кіруючым саставам работнікаў і актывам.

Словы тав. Кагановіча, сказаныя ім на XVII партыйным з'ездзе, што „аснова партработы—гэта праверка выканання", „Мала фіксаваць факты, а трэба на справе дапамагаць"—я добра засвоіў і пачаў іх выконваць.

Ужо ў працэсе азнаямлення са сваёй групай прадпрыемстваў я знайшоў зусім слабую падрыхтоўку да сезона з боку будаўнічых арганізацый, на што я неадкладна пераключыўся для таго, каб арганізаваць работу, не прапусціць будаўнічага сезона. Пасля папярэдняй праверкі становішча работы мною была склікана нарада, дзе дагаварыліся работу распачаць неадкладна і адначасова наладзіць культурнае абслугоўванне сезоннікаў, арганізаваць соцыялістычныя метады работы. Тут-жа будаўнічыя ўчасткі заключылі паміж сабой соцыялістычныя дагаворы.

Пасля праведзенай арганізацыйнай перабудовы партработы я ўжо дэталёва азнаёміўся з людзьмі, ведаў, з кім мне прыдзецца работаць і на што згрупоўваць увагу ў далейшай рабоце. Зараз работа на будаўніцтве наладжваецца.

Далей узяўся за партработу на прадпрыемствах.

Мне было ясна, што буйнейшыя прадпрыемствы групы—дрэваапрацоўчы камбінат ім Гікало і „Везувій" знаходзяцца ўжо на працягу доўгага часу ў агідным прарыве, таму толькі, што слаба там пастаўлена партмасавая работа, работа па аўладанню тэхнікай вытворчасці і слаба разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва. Сваёй задачай я паставіў выцягнуць прадпрыемствы з прарыва ў перадавыя прадпрыемствы Гомеля, зрабіць іх апорнымі прадпрыемствамі кіруемай мною групы.

Я ведаю, што пры глыбокай, штодзённай і разгорнутай партмасавай рабоце можна дасягнуць выканання пастаўленых задач. 75 проц. свайго часу я знаходзіўся на камбінаце імя Гікало і „Везувіі", непасрэдна у цэхах, праводзіў работу з парторгамі і рабочымі. Увечары і ўночы, у I і III зменах я ўвесь час вывучаў, як ідзе работа пасля перабудовы, як работаюць комуністы і комсамольцы і як праводзіцца палітычна масавая работа.

Аднак, галоўны ўпор у маёй рабоце быў зроблены на практычную рэалізацыю рашэнняў 17-га партз'езда, на дэталёвае вывучэнне даклада тав. Сталіна комуністамі і беспартыйнымі рабочымі. Адначасова старанна праводзілася работа па разгортванню соцыялістычнага спаборніцтва не толькі ўнутры прадпрыемства, але і паміж групамі прадпрыемстваў. Работу я пачаў праводзіць сумесна з сакратарамі парткомаў і парторгамі. Спачатку арганізоўвалі работу ўнутры прадпрыемства, пасля пераключаліся на работу паміж прадпрыемствамі. На гэта былі мабілізаваны ўсе сродкі масава-палітычна-выхаваўчай работы. Сапраўднае

соцыялістычнае спаборніцтва арганізоўвалася не на адным-двух сходах, не прамовамі, а глыбока, па-дзелавому на аснове давядзення вынікаў спаборніцтва да шырокіх мас рабочых, пры іх канкрэтным удзеле.

Сакратар парткома дрэўкамбіната імя Гікало тав. БАС разам з парторгамі цэхаў і брыгад выклікаў на соцыялістычнае спаборніцтва сакратара парткома „Везувія" т. Шуба разам з парторгамі цэхаў на аўладанне тэхнікай. Тое, што гэта важнейшае пытанне, гаворыць такі факт: тэхнічных прастояў па камбінаце ім. Гікало ў студзені было 13606 станка-гадзін, у лютым—11375, або ў пераводзе на рабочыя дні прастой абсталявання складаў ад 6-да 9 дзён. Такое-ж становішча мелася і на „Везувіі".

Вакол гэтага мерапрыемства—аўладання тэхнікай была сканцэнтравана ўся масавая палітычная работа. Для таго, каб дабіцца пэўных рэзультатаў, прадпрыемствы, цэхі, брыгады, партыйныя і профсаюзныя работнікі спаборнічалі за пяршынства. У выніку ўсяго гэтага на камбінаце з 587 рабочых ахоплена тэхнічнай вучобай і на працягу 2-х месяцаў здалі тэхнічны экзамен 289 чал. Тэхнічныя прастоі складаюць 8606 стан. ка-гадзін. На „Везувіі"—ахоплена тэхнічнай вучобай 261 чал., здалі экзамен 176 чал.

Адначасова непаслабна праводзілася работа па вывучэнню рашэнняў 17-га з'езда ВКП(б) і даклада тав. Сталіна. Асабліва пастаўлена добра вывучэнне на Дрэваапрацоўчым камбінаце, дзе работае прапагандыстам тав. Музыкін, які сваёй умелай работай добра арганізаваў партвучобу і вывучэнне рашэнняў з'езда. Няма ніводнага комуніста, не займаючагася ў школе. Больш 50 беспартыйных рабочых акуратна наведваюць партшколы. Прыняты залікі ад 47 чал. актыва па дакладу тав. Сталіна і рашэннях 17-га з'езда.

Нядрэнна абстаіць справа па вывучэнню рашэнняў з'езда і даклада тав. Сталіна на камбінаце „ВСО" (парторг тав. Кавалёў)—у УВСР-60 (парторг тав. Брэйдзін). Некалькі адстаюць у вывучэнні рашэнняў 17-га з'езда ВКП(б) партарганізацыі леспрамгаса „Везувія".

Важнейшае палітычнае мерапрыемства, рэалізацыя пазыкі „Другога года другой пяцігодкі", было праведзена пасляхова. Камбінат імя Гікало на працягу 38 гадзін выканаў кантрольную лічбу па падпісцы на 100 проц. Была арганізавана практычная дапамога партарганізацыі фабрыкі „Везувій", з якой камбінат Гікало спаборнічае.

Мая работа зводзілася не толькі да пераканання сакратароў парткомаў і парторгаў абслугоўваемай мною групы ў тым, што неабходна правесці тое або іншае мерапрыемства, якое сам высоўваў і пераносіў вопыт работы на сваіх вытворчых нарадах, у Гаркоме—на прадпрыемствы, я таксама ўжываў і падхопліваў добрыя прапановы сакратароў парткомаў і парторгаў, папулярызаваў новыя метады на тых участках, дзе мэтазгодна было іх ужываць. Там, дзе дрэнна ўжываліся новыя мерапрыемствы я імкнуўся даказаць іх карыснасць канкрэтнай справай. Так прышлося будаваць мне сваю работу па наладжванню чыстаты на прадпрыемствах, асабліва ў інтэрнатах.

Адным з узорных інтэрнатаў з'яўляецца інтэрнат фабрыкі „Везувій", які добра быў абсталяваны, забяспечаны пасцельнымі прыладамі, пакоі чыстыя, светлыя, нават з кветкамі.

Пасля маіх неаднаразовых указанняў партыйным і профработнікам на неабходнасць падтрымання чыстаты ў інтэрнатах, я яшчэ склікаў нараду камендантаў, культработнікаў, парторгаў, дзе пасля праверкі становішча інтэрнатаў, зрабіў даклад, пасля чаго павёў іх у культурны інтэрнат фабрыкі „Везувій", адначасова і ў брудныя інтэрнаты камбіната імя Гікало і Белдзяржбуда для таго, каб паказаць як трэба дабівацца чыстаты. Гэта дало свае станоўчыя вынікі, асабліва на камбінаце ім. Гікало. Там абсталявалі пакоі для ўдарнікаў, набыты прасцьіні, коўдры, вымыты вокны, ліквідаван бруд. Тое самое зроблена і на астатніх прадпрыемствах.

У рэзультаце праведзенай мной работы на камбінаце ім. Гікало, дзе раней каля цэхаў было шмат бруду і смецця, зараз зроблены палісаднікі і насаджаны кветкі.

Мною работа праводзілася і сярод партыйных, профсаюзных работнікаў, з друкам, з прапагандыстамі, яна накіравана на лепшую пастаноўку ўсіх правадзімых мерапрыемстваў і рэалізацыю рашэнняў 17-га партз'езда. Сакратары

парткомаў, прапагандысты, работнікі друку, профработнікі, майстры і брыгадзіры хадзілі адзін к другому на прадпрыемствы, вывучалі метады работы, гэтыя метады папулярызаваліся на шырокіх куставых нарадах, што дало таксама свае станоўчыя рэзультаты і зрух у масавай рабоце і ў выкананні вытворчых заданняў.

Калі камбінат ім. Гікало ў першым квартале праграму скончыў на 73,4 проц. то ў красавіку выканаў—на 98 проц., „Везувій"—у І кв. па запалках план выканаў на 82 проц., па фанеры — на 92 проц., а красавіку па запалках план выканан на 102 проц., па фанеры на 100 проц. Камбінат ВСО і УВСР 60, якія спаборнічаюць паміж сабой, дабіліся ліквідацыі меўшыхся прарываў. 1 кв. па камбінату ВСО быў выканан на 71 проц. у красавіку — на 117 проц. УВСР-60 І кв. выканан на 80 проц., у красавіку на 112 проц. За гэты невялікі перыяд работы ў групе прадпрыемстваў я змог выявіць „знатных людзей" нашага часу, лепшых ударнікаў, лепшых парторгаў, грамадскіх работнікаў, начальнікаў цэхаў, брыгадзіраў.

Зараз я пераключыўся на другое звяно сваёй групы прадпрыемстваў, не ў парадку чарговасці, а ў парадку забеспячэння далейшых задач разгортвання партыйна-масавай работы групы прадпрыемстваў (леспрамгаса, сплаўной канторы, будаўніцтва), дзе мною дагэтуль менш удзялялася ўвагі і гэтыя прадпрыемствы зараз вырашаюць пытанне снабжэння дрэваапрацоўчай прамысловасці.

Будаўнікі павінны зараз скончыць пачатыя аб'екты пераходнага будаўніцтва і на гэтым я сваю увагу зараз канцэнтрую на разгортванні партыйна-масавай работы і соцыялістычнага спаборніцтва. Асабліва гэта важна для сезонных рабочых, а таксама і для адміністрацыйна-тэхнічнага персанала, дзе яшчэ няма кіпучага жыцця. У леспрамгасе, з прычыны бяздзейнасці асобных начальнікаў участкаў і зусім недастатковай работы профарганізацыі план 2-га квартала на 6 мая 34 г. па лесазагатоўках выканан на 2,9 проц., па вывазцы—на 2,6 проц. Тут трэба раней усяго зараз дабіцца аператыўнасці ў рабоце ад начальніка ўчастка, тут трэба сапраўднае соцыялістычнае спаборніцтва. Вось мая дзенная работа 6 мая ў выхадны дзень: з 12 да 2-х гадзін праводзіў нараду начальнікаў эксплаатацыйных і лесаводскіх участкаў па пытанню аб ходзе выканання плана 2-га квартала. На нарадзе абгаварваліся рашэнні ЦК ВКП(б) і КП(б)Б аб сплаве, тут былі заключаны дагаворы на соцспаборніцтва паміж участкамі, абмеркаваны выклік Гомельскага леспрамгаса Чачэрскаму на соцспаборніцтва па датэрміноваму выкананню плана лесазагатовак і лесавывазак на 2-гі квартал.

7 мая з 2 да 5 гадзін быў у сплаўной канторы, займаўся праверкай соцыялістычных дагавораў, заключаных паміж Гомельскім і Віцебскім гаркомамі на лепшае правядзенне сплаву, была брыгада па праверцы дагавораў з Віцебскім гаркомам.

9 мая з раніцы, разам з начальнікам сплаўнога ўчастка і прадстаўнікам Лесбелу быў на пунктах, дзе фармуюцца плыты для сплаву на Украіну, гутарыў з рабочымі, якія гоняць плыты. Прабыў да 3-х гадз. дня, пасля гэтага заехалі на камбінат імя Гікало. і на ф. „Везувій", знаёміў іх з вытворчымі працэсамі данага прадпрыемства.

У сувязі з маімі ўмяшаннямі ў справы сплава я арганізаваў практычна культурна-выхаваўчую работу. Прымусіў партарганізацыю паслаць на участкі плывучы угалок — клуб, намеціў цэлы план масавай работы з сплаўшчыкамі.

* * *

Так праходзіць зараз мая работа пасля перабудовы. Аднак, тое, што праароблена за гэты час, з'яўляецца недастатковым, каб забяспечыць выкананне пастаўленых задач ў рашэннях XVII партз'езда.

Інструктар ГК КП(б)Б Пазнякоў

# Інструктар работае па-новаму

Хадзілі па інтэрнату Беларускага будаўнічага трэста, глядзелі, як жывуць рабочыя і работніцы камбіната імя Гікало. Пабывалі і ў жылым будынку фабрыкі „Везувій“.

Карыдор не асвятляецца, завален хатнімі рэчамі і хламам. Дзверы закладзены дрывамі. У цёмным карыдоры лужы.

Няўтульна ў інтэрнатах дрэваапрацоўчага камбіната, не лепш і ў белдзяржбудскіх бараках. Баракі яшчэ новенькія, але вельмі запушчаны. Падлога не мылася з дня яе насцілу. У бараках няма ні мятлы, ні веніка, ні швабры. Рабочыя спяць па траіх на адным ложку. Тут-жа поруч развешаны анучы.

Зусім інакш выглядзіць невялічкі дворык у жылым будынку запалкавай фабрыкі „Везувій“. Двор чысты, насаджаны дрэвы. Тут аб рабочым жыцці, аб утульнасці турбуюцца не менш, чым аб промфінплане. Дастаткова адчыніць дзверы інтэрната рабочых, каб у гэтым упэўніцца. Падлога афарбавана, каля сцен блішчаць жалезныя ложкі з пружыннымі матрацамі, чыста добра, засланы ложкі, дываны. У вокнах ярка блішчыць сонца.

Тры інтэрнаты, але якая паміж імі розніца! У кожным з інтэрнатаў ёсць камендант, але не кожны камендант пагаспадарску клапоціцца аб інтэрнатах.

---

Звычайна інструктар заходзіў на завод для таго, каб заглянуць у пратаколы. Возьме папку з справамі ячэйкі, перагартае падшытыя лісточкі.

— Чаму не выканана такое-то рашэнне?—запытае.

Альбо:

— Чаму не праведзена ў жыццё рашэнне бюро ячэйкі?

Невыкананых рашэнняў аказвалася шмат. Інструктар піша дакладную запіску ў гарадскі камітэт партыі. К запісцы прыкладвае вывады. К вывадам—абгрунтаваны праект рашэння.

Ад такога інструктажу мала было толку.

Зусім другая справа зараз, пасля перабудовы. Інструктаж зараз — сур'ёзная адказнейшая работа. Аб гэтым гавораць самі інструктары.

Тав. Пазнякоў да таго, як быў прызначан адказным інструктарам, кіраваў аддзелам кадраў Гомельскага гаркома партыі. Яго рабочы дзень у аддзеле пачынаўся з тэлефонных званкоў. Ён вызываў людзей, уручаў ім пуцёўкі, капаўся ў партыйных вучотных картках, і так з дня ў дзень.

Зараз застаць інструктара ў камітэце партыі нялёгка. Вяртаючыся з прадпрыемстваў, ён заўсёды знаходзіў на дзвярах запіску:

„Званіў табе некалькі разоў, але ніхто не адказваў, Рашыў потым зайсці. Буду а восьмай увечары“.

Зараз інструктар гаркома гэта раней за ўсё—партыйны арганізатар. Ён вельмі рухавы. Паглядзіце ў блакнот тав. Пазнякова і вы даведаецеся месца і адрас, дзе работае інструктар.

У інструктара пэўная зона:

У яго дзесяць пярвічных партыйных арганізацый: Белдзяржбуд, Комунбуд, камбінат імя Гікало, сплаўкантора, леспрамгас і інш., за якія ён адказвае.

Як работае інструктар? Прывядзём адзін прыклад з практыкі тав. Пазнякова.

Гомельская партыйная арганізацыя зараз праводзіць вялікую работу па культурна-бытавому абслугоўванню працоўных горада. Неабходна прывесці ў культурнае становішча рабочыя будынкі. Задача інструктара — абыйсці прадпрыемствы, паглядзець інтэрнаты, рабочыя баракі, пагутарыць з рабочымі; дзе трэба—дапамагчы, парадзіць. Іншы раз прыходзіцца моцна нажымаць на домакіраўніцтвы, прымусіць іх выконваць дырэктыву партыі і ўрада аб паляпшэнні жыллёва-бытавых умоў рабочых.

Пасля такога абходу тав. Пазнякоў склікаў нараду ў райкоме. Прыйшлі парторгі, старшыні рабачкомаў, фабзаўкомаў, каменданты інтэрнатаў і баракаў. Кароткі абмен думкамі. Камендант камбіната імя Гікало паведамляе, што жыллёвай плошчай рабочыя камбіната забяспечаны поўнасцю, ёсць чырвоны куток, але няма культурніка, паслабла дысцыпліна. Адным рабочым не хапае коўдраў, другім—прастынь, трэцім—ложкаў, чацвёртых замучыла антысанітарыя.

Тав. Паланоўскі, камендант будынку фабрыкі „Везувій“ работае з 1932 года.

Ён больш энергічан, чым іншыя. Дабіўся дабудовы двухпавярховага будынка. Не раз штурмаваў аддзел рабочага снабжэння, сам абыйшоў усе магазіны, базы горада, закупіў коўдры, прастыні, навалачкі. Зараз у яго ўсе жыхары забяспечаны пасцельнай бялізнай.

Мне добра дапамагаюць партыйцы, якія жывуць у інтэрнатах, — гаворыць тав. Паланоўскі. Заканчваем прапрацоўку рашэнняў XVII з'езда партыі, чытаем газеты.

Тав. Паланоўскі раіць менш спадзявацца на другіх, а больш самім рабіць. Тады справа пойдзе лепш і пэўней.

Заключнага слова не было. Рэзалюцый таксама. Удзельнікі нарады згадзіліся з прапановамі тав. Пазнякова.

— Мая прапанова такая,—сказаў інструктар,—пайсці ўсім па інтэрнатах і там на месцы прыняць меры.

40 чалавек хадзілі па рабочых кватэрах. Інструктар райкома пасля агляду інтэрнатаў даваў тут-жа канкрэтныя заданні, што патрэбна зрабіць, і тэрміны выканання.

Экскурсіі па інтэрнатах заслугоўваюць асаблівай увагі. Гэта адзін з канкрэтных прыкладаў кіраўніцтва па-новаму, тым больш, што вопыт зусім апраўдаў сябе.

Узяць Гомельскі сплаўны ўчастак. Раней інтэрнат сплаўшчыкаў быў брудны, дрэнна абсталяваны. Зараз інтэрнат адрамантаваны, абсталяваны. Чыста і акуратна стала ўнутры. Ёсць пакой ударніка, светлы чырвоны куток, піяніна радыё.

Такавы першыя рэзультаты работы інструктара пасля перабудовы.

**Нік. Зубрылаў.**

(Газета „Лясная прамысловасць").

# У барацьбе за высокую якасць работы

У гаркоме КП(б)Б раней я працаваў намеснікам культпропа ГК КП(б)Б, а зараз—інструктарам па ВНУ і ВТНУ.

Я меў сувязь з навучальнымі ўстановамі, але гэта была толькі сувязь, але не было канкрэтнага, аперацыйнага кіраўніцтва, бо навучальнымі ўстановамі кіравалі, акрамя культпропа, аргаддзел і аддзел кадраў. У выніку трохсістэмнага кіраўніцтва, ні адзін з вышэйадзначаных аддзелаў не ўглыбляўся ў сапраўднае становішча ВНУ. Мяне заўсёды цікавілі праграмна-метадычная праца, якасць лекцый, забяспечанасць выкладчыцка-прафесарскім саставам, але я ніколі не думаў аб парт-масавай рабоце, аб камплектаванні, аб рабоце сталоўкі і т. д.

Пасля перабудовы апарата ГК КП(б)Б, работа ўскладнілася, але затое цікавей стала працаваць. Перш за ўсё я ўзяўся за перабудову партыйных арганізацый. Мною была вывучана работа лясного інстытута, і на вопыце перабудовы партарганізацый лесінстытута была перабудавана работа ўсіх астатніх ВНУ (механіка-маш.-буд. інстытута, педінстытута, рабфака, мехінстытута і г. д.). Хоць і прайшоў даволі кароткі час пасля перабудовы, а ўжо можна судзіць аб канкрэтных выніках.

Лесінстытут. Партком з 3-х чал. пры саставе арганізацыі ў 52 чалав., стаў баявым, гібкім і аперацыйным органам інстытута. Парторгі факультэтаў т.т. Машкоўскі, Юран, Лейчык, группарторг тав. Шчарбакоў і інш.—гэта таварышы, якія раней выконвалі абавязкі культпропаў, агітмасаў і г. д., а зараз з'яўляюцца цэнтральнымі фігурамі факультэта і групы. Кожны з іх нашчупаў слабае звяно свайго факультэта. Яны сталі ўнікаць ва ўсе дэталі. На факультэце механізацыі КСМ-оргі слаба працавалі, у Вузспецбюро тав. Машкоўскі ўзяўся за ўзмацненне гэтых звенняў. У выніку правільнай расстаноўкі людзей і канкрэтнага кіраўніцтва былі поўнасцю ліквідаваны вучэбныя хвасты. Прапрацаваў ён сярод сваёй групы артыкул Яраслаўскага, передавую „Правды" ад 9 сакавіка 1934 г. Група аказвае дапамогу шэфу камбінату імя. Гікало ў арганізацыі тэхэкзамена.

У парторга тав. Юрана паасобныя комуністы адстаюць у вучобе, і ўвага тав. Юрана накіравана на тое, каб выцягнуць іх у рады перадавых.

Групарторг тав. Шчарбакоў ведае кожны дзень, якія студэнты рыхтуюцца да лекцыі і якія працуюць павольнымі тэмпамі.

Гэта не значыць, што ўжо ўсё зроблена. Паасобныя комуністы яшчэ слаба ўдзельнічаюць у партжыцці інстытута. Паасобныя замыкаюцца ў шкарлупе голага акадэмізма, пасіўнічаюць, адстаюць у вучобе. Яшчэ многа прыдзецца папрацаваць, каб выцягнуць усе звенні, каб усе вінцікі заработалі ў адпаведнасці з патрабаваннямі 17-га партз'езда.

Упор усёй маёй работы—гэта глыбокае разгортванне парт-масавай работы, праверка выканання, вывучэнне вопыту лепшых для перадачы астатнім навучальным установам. Вось, напрыклад, тэхнікум грамадскага харчавання ў 1-м усесаюзным спаборніцтве ВНУ і ВТНУ атрымаў 2 прэмію—грамату—ад усесаюзнага камітэта і 15 000 руб. Я дэтальна азнаёміўся з усімі данымі гэтага тэхнікума і 29 сакавіка склікаў нараду трохкутнікаў і загадчыкаў вучэбных частак тэхнікумаў для перадачы вопыту работы астатнім навучальным установам.

Бясспрэчна, правільная арганізацыя работы і належная расстаноўка людзей рашаюць справу. Гэта адносіцца да тэхнікума грамадскага харчавання. Другі прыклад: Гомельскі мединстытут.

Тав. Сталін на 17-м партз'ездзе адзначыў, што „педагагічныя і медычныя „факультэты" знаходзяцца ў нас ў загоне". Гэтыя паказанні правадыра партыі былі ўлічаны гаркомам КП(б)Б: зразу ўзяліся за гомельскі педінстытут. Дэтальная праверка паказала, што за фармальным благапалуччам крыецца яўнае неблагапалучча—вынікі заліковых сесій далі не вельмі добрыя вынікі: 1-шы курс даў 11 проц. „нездавальняюча", 2-гі курс—6,4 проц. „нездавальняюча" і яшчэ да гэтага часу працягваецца ліквідацыя запазычанасці па заліковых сесіях першага семестра; дысцыпліна не на высокай ступені: з 19 студзеня па 1 сакавіка 1934 г. па хіміка-біялагічнаму факультэту прапушчана па няўважлівых прычынах 237 гадзін і спазненні складалі 9 гадзін 21 мін., па фізмат-факультэту па няўважлівых прычынах прапушчана 144 гадз. і спазненні—6 гадз. 27 мін. Паасобныя студэнты, як Гарэлік і Шаруба, вядуць сябе вызываюча, а з імі працягваюць ліберальнічаць.

Можна было прывесці яшчэ шмат прыкладаў аб зусім нездавальняючай пастаноўцы справы ў інстытуце, але і вышэйпрыведзеныя гавораць аб тым, што ў інстытуце не было глыбокай выхаваўчай працы.

Зараз перабудавана партарганізацыя. Парторгамі факультэтаў падабраны моцныя комуністы—тт. Грышанаў і Ураднікаў. Мною праведзена нарада трохкутнікаў груп з удзелам партыйнага і прафсаюзнага актыву. Людзі, узброеныя разуменнем задач, вынікаючых з рашэнняў 17-га партз'езда, сталі працаваць зусім па-новаму. Асноўная ўвага парткамітэта накіравана на глыбокае разгортванне партмасавай і выхаваўчай работы сярод студэнтаў і выкладчыкаў. Рашучая барацьба з расхлябанасцю, недысцыплінаванасцю, за высокія паказальнікі вучобы рэзультат набліжэння канкрэтнага кіраўніцтва з боку гаркома партыі непасрэдна да партгрупы і факультэта.

У святле рашэння 17-га партз'езда перада мною, як інструктарам, стаяць важнейшыя задачы, асабліва па аўладанню тэхнікай педпрацэса. Гэтыя задачы стаяць і перад значнай часткай выкладчыкаў нашых сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, а таксама і масавых школ, якія павінны ўзброіць нашых педагогаў тэорыяй ленінізма.

Пры дапамозе бюро гаркома партыі я здолею ў хутчэйшы час ліквідаваць адставанне ў нашых навучальных установах у галіне разгортвання глыбокай парт-масавай работы і выканання дырэктыў партыі аб падрыхтоўцы высокаякасных спецыялістаў для нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Інструктар гаркома КП(б)Б
па ВНУ і ВТНУ **Рэзнікоў.**

## ПЕРШЫЯ КРОКІ ПЕРАБУДОВЫ ПАРТЫЙНАЙ РАБОТЫ НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

*Партарганізатар павінен быць баявым прадстаўніком партыі ў цэху. Ён павінен, не парушаючы адзінаначалля, выконваць задачы, якія статут ставіць перад партыйнай арганізацыяй, змагацца з расхлябанасцю, дабіцца на справе жалезнай пролетарскай дысцыпліны.*

*(З даклада Л. М. Кагановіча на XVII партыйным з'ездзе).*

# Партарганізацыя фабрыкі даказала, што промфінплан выканальны

Меблевая фабрыка дрэваапрацоўчага камбіната імя Гікало лічылася самай адстаючай у выкананні промфінплана. У мінулым годзе промфінплан не выконваўся і на 50 проц. Фабрыка вышла з прарывам і ў першым квартале 1934 года. Корань зла ў наяўнасці старых аджыўшых форм і метадаў кіраўніцтва, у адсутнасці партыйна-масавай работы, як моцнага сродка мабілізацыі мас на выкананне промфінплана.

Пасля 17-га партз'езда партыйная арганізацыя камбіната пачала перабудоўваць сваю работу. Мяне, як агітмаса парткома, паслалі партарганізатарам для ўмацавання і арганізацыі перамог на фабрыцы. Пераход мой на фабрыку, на адказнейшы ўчастак, для мяне быў вялікай радасцю.

Прышоўшы туды я паставіла сваёй задачай вывучыць рабочых і ўвесь актыў. Папрацаваўшы адзін-два дні, я адразу ўбачыла, што ў цэхах вельмі дрэнна арганізавана ўнутры-цэхавае планаванне і сама работа. Пад маім кіраўніцтвам у кожнай змене, брыгадзе быў арганізаваны ўлік работы і вывешванне на дошку паказальнікаў работы, кожнай брыгады і рабочага.

Гэта дало магчымасць кожнаму бачыць работу на ўсіх працэсах вытворчасці. Звярнула асаблівую ўвагу на мастацкае афармленне фабрыкі, наладзіла сістэматычнае вывешванне спецыяльных плакатаў з паказам перадавых і адстаючых.

Прастоі варштатаў і паасобных брыгад на фабрыцы былі звычайным з'явішчам. Тут з гэтым прымірыліся. Для зжыцця гэтых недахопаў арганізавалі сігнальныя пасты, якія штодня сігналізуюць аб дрэннай рабоце, іх сігналы сталі асноўным зместам выпускаемых плакатаў, якія штодня мабілізуюць масы.

Я звярнула асаблівую ўвагу на жыллёвыя ўмовы рабочых. Раней рабочыя нашай фабрыкі жылі ў інтэрнаце камбіната, былі „распылены" па ўсіх пакоях. У мэтах лепшага абслугоўвання іх і паляпшэння жыллёвых умоў я дабілася ад трохкутніка камбіната вылучэння асобных пакояў для нашых рабочых. Нам вылучылі пяць пакояў, якія мы адрамантавалі, абсталявалі. У іх праводзім масавую работу, увязваючы гэта з барацьбой за ліквідацыю прарыва.

Я пачала дэталёва вывучаць быт і патрэбы кожнага рабочага. У часе падпіскі на пазыку я выкрыла, што рабочы нашага цэху М о р у с не падпісаўся на пазыку. Зацікавіўшыся гэтым пытаннем, высветліла, што ў яго 6 душ сям'і, яму трэба дапамога, а яе ніхто не аказваў. Я яму дапамагла: 16-гадовага сына ўстроіла ў ФЗВ камбіната, другога сына паслалі ў дзіцячы сад і гэта дало тое, што Морус падпісаўся на пазыку.

Мабілізацыя ўсіх рабочых на барацьбу за знішчэнне перабояў у рабоце фабрыкі дала мне магчымасць арганізаваць бесперабойную работу важнейшых аб'ектаў. Красавік даў нам перамогі, пачынаючы з 11 чысла ўпершыню фабрыка выканала промфінплан. Брыгада Л е ш ч а к о в а пачала выконваць промфінплан на 104-105 проц. Брыгада Д р а г у н о в а й — на 115, К у р а к а — на 110 проц.

Меблевая фабрыка вышла ў перадавыя па камбінату ў барацьбе за ўзорную чыстату. Каля фабрыкі пасаджаны кветкі, зроблены палісаднікі.

Гэта толькі першыя крокі. Перад намі стаяць вялікія задачы. Мы абавязаны пакрыць прарыў першага квартала, даць патрэбную колькасць высокаякаснай прадукцыі для нашага спажыўца. Гэтыя задачы мы зможам выканаць толькі тады, калі да канца перабудуем партыйную работу на фабрыцы. Мы яшчэ мала зрабілі ў гэтым напрамку, наш абавязак гэта наверстаць.

Парторг **Каган.**

# Партгрупа „отличников“



Ужо ўвесь лісток быў пакрыт подпісамі. Комуністы ў авангардзе тэхнічнай вучобы... Выкананне статуту партыі...

Яшчэ і яшчэ раз прабягалі перад ім асноўныя думкі звароту да ўсіх ударнікаў Гомельскіх заводаў, які пісалі „ізотаўцы“ дрэвакамбіната імя Гікало, Славін думаў аб сваіх хлопцах.

„Рэвуцкі не падкачае, ён сваёй справе спец. Мерынг таксама не павінен здаць“. Славін ацэньваў сілы сваёй партгрупы.

— Ну, што-ж ты!—клікнуў яго сакратар парткома Бас. Славін устаў і паставіў свой подпіс пад зваротам аб арганізацыі конкурса на першую партгрупу „отличников“.

Быць „отличником“ на берагавым складзе лесакамбіната нялёгка. Для гэтага прыходзілася вучыцца дзесяткі год. Быць „отличником“ на сартыровачнай базе экспартлеса гэта азначае быць кваліфікаваным бракёрам. Мала мець тэхнічныя веды, трэба спецыяльна развіць зрок, каб беспамылкова угадваць пачатак сінявы на дрэве, каб не прапусціць ніводнага з незлічоных дэфектаў драўніны.

Такую задачу паставіў перад сваёй партгрупай групорг Славін—стаць першай партгрупай „отличников“.

Вопытнейшага бракёра, спецыяліста па дрэву, начальніка лесацэха тав. Масюкевіча запрасіла партгрупа быць сваім настаўнікам. І настаўнік, і вучні аказаліся вельмі цікавымі. Як вучыліся людзі? Іногды час да пачатку партыйных сходаў, іногды гаспадарчыя нарады кіраўніцтва нечакана ператвараліся ў заняткі тэхгуртка.

Практычныя заняткі праводзіліся на ўкладцы штабляў. Тут настаўнікі працавалі разам з вучнямі. Тут работаў і парторг цэха Злацін, ажыццяўляючы практычнае кіраўніцтва. Тут партгрупа спаборнічала са славутай брыгадай братоў Табала. Практычныя работы былі праведзены як быццам нядрэнна. Па ўкладцы план выканан на 150 проц., па сартыроўцы на—162 проц., па тарцоўцы—на 124 проц.

Тэорыя таксама была ўсвоена. Групорг Славін ухітрыўся зрабіць сваім настаўнікам нават такога цікавага чалавека, як інспектар экспартлеса Барбас. Тэарэтычных заняткаў за 2 месяцы партгрупа правяла больш 20, прычым толькі прыблізна 8 з іх былі афіцыйнымі заняткамі гуртка. Вучыліся на пасяджэннях, у сталоўцы, у перапынку ад работы, у начным санаторыі, у клубе, у таварыскай гутарцы на вуліцы.

Ва ўсякім выпадку, калі комуніст Мерынг хацеў ведаць, чаму трэскаецца дрэва, і як трэба пазбягаць трэскання, ён не спыніўся перад тым, каб зайсці у пакой да начальніка цэха. І начальнік цэха прымаў яго, як па службовай справе, тлумачыў яму падрабязна ў перапынку паміж праверкай ведамасці на зарплату і прыёмам па пытанню наборных дакумантаў.

Першым на тэхнічны экзамен пашоў групорг Славін. За здачай экзамена напружана сачыла ўся партгрупа. Славін атрымаў адзнаку „вельмі добра“. Хутка партгрупа атрымала яшчэ аднаго „отличника“, экзамен здаў Рэвуцкі. Здаўшыя вучылі нездаўшых. Заняткі ў групе працягваліся.

І да 1 мая таварышы Мерынг, Фейгін і Эйсмант добра адказалі на самыя складаныя пытанні бракёраў экспартлесу. Партыйная група Славіна стала групай „отличников“. Подпісы пад зваротам былі апраўданы.

Імёны комуністаў групы з'явіліся ў спісках „ізотаўцаў“. Імёны комуністаў адзначаліся самым высокім процантам выканання плану. І адразу-ж цэх, у якім з'явілася першая ў Гомелі партгрупа „отличников“, стаў лепшым цэхам камбіната. На 118 проц. выканання плана рапартаваў цэх у першамайскія дні. І ў гэтай перамозе ёсць нямалая доля поспехаў першай партыйнай групы „отличников“.

Б. Пасканнеў.

Машынабудаўнічы завод „Пралетарый“

# Адстаючым вучыцца на вопыце перадавых

Даклад т. Сталіна на XVII партыйным з'ездзе даў у рукі кожнай партарганізацыі, кожнаму комуністу верныя, моцныя рычагі да дасягнення новых соцыялістычных перамог у другой пяцігодцы. Кожнае ўказанне любімага правадыра партыі з'яўляецца канкрэтнай праграмай дзейнасці, яно раскрывае перад намі вялікія магчымасці паляпшэння якасці ўсёй нашай работы, якасці нашага кіраўніцтва.

Досыць прывесці прыклад работы двух брыгадных парторгаў на заводзе „Пралетарый“, каб пацвердзіць што там, дзе поўнасцю ажыццяўляюць указанні т. Сталіна, дзе забяспечана жывое канкрэтнае кіраўніцтва, мы маем добрыя вынікі, і наадварот, там дзе на чале партгрупы стаіць „шляпа“, дзе рашенні XVII партз'езда не выконваюцца, мы маем прыклады балбатні, пустазвонства, замест канкрэтнага аператыўнага кіраўніцтва ў рабоце.

Вось прыклад добрых рэзультатаў работы партыйнай групы па зборцы кандэнсацыйных гаршкоў у арматурным цэху. Раней да перабудовы партыйнай работы брыгада работала дрэнна. Прадукцыя выходзіла з вялікім процантам браку, промфінплан не выконваўся. Комуністы, работаючыя ў брыгадзе, не былі арганізатарамі работы, сярод іх былі развіты прагулы, нізка была працдысцыпліна. У час чысткі былі выключаны з партыі слесары: ілжэўдарнік-бракароб член партыі Харошын і кандыдат партыі Волкаў.

Пасля перабудовы работы на чале брыгады стаў слесар Кляшторын, які правільна зразумеў словы правадыра т. Сталіна, што арганізацыя справы рашае ўсё. „Пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі, яе выкананне і яе правал“ (Сталін).

Прыступіўшы да працы, парторг Кляшторын паставіў перад сабой задачу—ўзняць партыйную і працоўную дысцыпліну, дабіцца правільнай арганізацыі працы, аўладаць тэхнікай сваёй вытворчасці. Шляхам шырока разгорнутай масава-выхаваўчай работы, яму ўдалося стварыць гурток тэхвучобы.

Брыгада актыўна ўзялася за тэхнічную вучобу. Раней рабочыя не ведалі назначэння кожнай дэталі; не ведалі чаму крышка патрабуе пэўнай таўшчыні, чаму трубка павінна мець пэўную рэзьбу і т. д. І ў рэзультаце брак даходзіў да пагражаючых размераў, а ўсё гэта адбівалася на выкананні промфінплана. Толькі пасля таго, як быў пройдзены курс тэхгуртка, рабочыя азнаёміліся з тэхналагічным працэсам усіх дэталей кандэнсацыйнага гаршка, пачалі лепш работаць, узнялася прадукцыйнасць працы. Замест ранейшай нормы выпрацоўкі за дзень 50 гар-



Варштат „Калава“, які раней увозіўся з-за мяжы, зараз асвоены на заводзе „Пралетарый“

шкоў, норма была ўзнята да 85 гаршкоў і, не гледзячы на такую вялікую прадукцыйнасць, рабочыя цяпер перавыконваюць свой промфінплан на 110—120 %.

Брыгада, дзякуючы добрай партмасавай рабоце, за першы квартал выканала промфінплан на 106,6 проц. Прадукцыйнасць працы ўзнялася на 117,2 проц., што дало цэху эканоміі 760 працагадзін. Брыгада, як гаспразрахунковая дабілася эканоміі абціравачных і змазачных матэрыялаў, за што атрымала прэмію ў 543 руб.

З 22-х чалавек 12 здалі тэхэкзамен на „вельмі добра", астатнія—на „добра". За красавік план кожным рабочым паасобку перавыкананы. Рабочы Капейкін выканаў свой промфінплан на 112 проц. Сухавершын—на 108 проц., Гурэвіч—на 113, Гамбург—на 106, Эпштэйн і Кляшторын—на 102, Садчыкаў—на 101 проц. і т. д. Уперадзе па выкананню промфінплана ідуць комуністы, члены партгрупы.

Чаму брыгада дасягнула такіх добрых вынікаў? Сакрэт у тым, што парторг умела здолеў расставіць усіх комуністаў роўнамерна па ўсіх участках і зменах, што забяспечыла партыйны ўплыў на ўсіх рабочых.

Не толькі вытворчую, але і па партмасавай рабоце кожны комуніст мае пэўную нагрузку, якую добра выконвае. Тав. Каплан ведае вытворчымі нарадамі, Эпштэйн—старшыня ячэйкі МОПР, Сухавершын, рэдактар газеты.

Вялікую дапамогу ў рабоце брыгады аказвае брыгадная штодзёнка, якая акуратна выходзіць, мабілізуе рабочых на выкананне і перавыкананне промфінплана і добрую пастаноўку партмасавай работы, сваёй большэвіцкай крытыкай змагаецца супроць усіх недахопаў, якія ёсць у брыгадзе, дабіваючыся іх знішчэння.

На сваім месцы знаходзіцца брыгадзір Гамбург. Ён поўнасцю ажыццяўляе адзінаначалле, указанні т. Кагановіча на XVII партыйным з'ездзе, што брыгадзір, начальнік цэха ёсць поўнаўладны кіраўнік участка. Ён не з'яўляецца вызваленым брыгадзірам, але-ж па-большэвіцку сумяшчае сваю работу ля варштата з работай брыгадзіра, што забяспечвае перавыкананне праграмы.

Адваротную карціну мы бачым у партгрупе брыгады токараў імя ГПА механічнага цэха. Там парторг Хайкін мала займаецца партмасавай работай, большасць яго комуністаў яшчэ не здавала соцтэхэкзамен, ёсць парушэнне адзінаначалля і цэлы рад іншых хваравітых з'явішчаў.

І не толькі на вытворчасці, але і па лініі марксісцка-ленінскага выхавання гэтая партгрупа пляцецца ў хвасце, яна не паказвае прыклада беспартыйным, наадварот комуністы сваімі ўчынкамі адштурхоўваюць ад сябе беспартыйных рабочых. Комуністы Гошко, Кожэмякін, Хайкін часта прапускаюць заняткі ў партыйнай школе, а кандыдат партыі Токараў зусім нідзе не вучыцца. І як рэзультат, з беспартыйных рабочых брыгады толькі невялікі процант наведвае партыйную школу.



**Брыгада шышальніц імя Клары Цэткін ліцейнага цэха завода „Пролетарый", якая паспяхова здала соцтэхэкзамен.**

Тое-ж самае і ў падрыхтоўцы кадраў. Партгрупа гэтым не займаецца, у цэх прыбывае новае абсталяванне, а партгрупай нічога не робіцца, каб лепш захаваць гэтае абсталяванне.

Усё гэта паказвае, што парторг Хайкін не зразумеў тых задач, якія паставіў перад намі XVII партыйны з'езд аб узняцці арганізацыйна-партыйнай работы на ўзровень палітычных задач. Ён работае па-старынцы і ясна, што брыгада мае рад прарываў у сваёй рабоце.

На XVII партыйным з'ездзе тав. Сталін, астанавіўшыся на нашых задачах у галіне арганізацыйнай работы сказаў:

„1. Падагнаць і наперад нашую арганізацыйную работу да патрабаванняў палітычнай лініі партыі.

2. Узняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

3. Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечыла правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі".

Гэта павінен улічыць парторг Хайкін ў сваёй далейшай рабоце. Вучыцца ў перадавікоў, у партыйнай групы Кляшторына, каб заняць сапраўды авангардную ролю ў брыгадзе токараў, поўнасцю знішчыць маючыяся там недахопы і наладзіць партыйна-масавую і вытворчую работу.

Г. Плоткін.

---

Шырэй і глыбей павінна быць разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва, асабліва па лініі лепшага асваення новай тэхнікі і новых вытворчасцей, што з'яўляецца асноўнай і рашаючай задачай у рабоце прамысловасці.

*З пастановы 15 з'езда КП(б)Б.*

Папяровая фабрыка „Герой працы“

# Узнялі авангардную ролю комуніста

Доўгі час наша фабрыка „Герой працы“ сядзела ў прарыве. Давяло яе да такога становішча тое, што мы не ўмелі рабо-таць, не ўмелі кіраваць. Комуністы на сваіх участках не апраўдывалі сябе.

Зараз, рэалізуючы рашэнні партз'езда, мы перабудавалі структуру партыйнай арганізацыі ў цэху, ліквідавалі бюро. Замест бюро ячэйкі арганізавалі парторга, партыйныя групы. Мяне абралі парторгам змены „Б“ вытворчага цэха.

Першае, чаго ад нас патрабавалі пры рабоце па-новаму—гэта ведаць сваіх людзей і ў першую чаргу комуністаў на рашаючых аб'ектах вытворчасці, падняць іх адказнасць за выкананне пром-фінплана.

Як я расставіў сваіх комуністаў? У мяне ў змене ўсяго два комуністы і адзін кандыдат партыі. На першы погляд здаецца, як жа тут забяспечыць кіраўніцтвам усе рашаючыя ўчасткі. Аднак, у мяне сілы расстаўлены так, што ні адзін участак не астаўся без вока партгрупы. Арганізаваў комсамольскую групу, якая складаецца зараз з 6 чалавек, скарыстаў спачуваючых. Сілы ў мяне расстаўлены наступным чынам:

Комуністка Кабарыха Ганна—на размолачных апаратах. Кандыдат партыі Грышачкін—у апаратурным аддзеле, комсамолка Сычова на першай папяровай машыне, спачуваючы Таўкачоў Васіль на ІІ-й папяровай машыне, ён-жа там профорг брыгады; комсамольскі арганізатар змены Скавародкіна на ІІІ-й папяровай машыне, так што амаль ва ўсіх брыгадах я маю на каго апірацца, і пры дапамозе гэтых людзей хутка і па-баявому праводзім усе мерапрыемствы.

Раней я не мог вырашыць самастойна ніводнага пытання. Часта баявыя пытанні я адкладваў на бюро цэхавай ячэйкі. Зараз за ўсю партыйную работу ў сваёй змене адказваю я. Зразумела, я стаў больш і лепш правяраць работу комуністаў і хутчэй вырашаць пытанні.

Ведаць „дробязі быта“, падыходзіць да кожнага рабочага, чула прыслухоўвацца да ўсіх настрояў, такую задачу я паставіў перад сабой. Для гэтага я бываю на кватэрах ударнікаў рабочых, а яны ў мяне.

Ахапілі ўсіх рабочых тэхвучобай, перазаключылі соцдагавары па брыгадах, арганізавалі каля машын дошкі выканання промфінплана, зменную насценгазету, арганізоўваем шэфства старых рабочых над маладымі.

Я трымаю зувязь з парторгамі іншых цэхаў. Так саломенна-целюлозны завод даваў менш вагонак саломеннай цэлюлозы, чым неабходна было, а гэта зрывала работу. Пагутарыў я з парторгам завода Бобрыкавым. Ён даў заданне комуністам прэспата, адкуль мы атрымоўваем вагонкі цэлюлозы, ліквідаваць прарыў; гэта недарэчнасць знішчана.

Так мы, парторгі, вучымся быць важакамі, падымаць інтарэсы вытворчасці на палітычную вышыню.

Але перабудова яшчэ не скончана, усё яшчэ існуюць аслабанёныя ад працы на вытворчасці цэхавы профорг Астроўская і цэхавы парторг Уцянкоў. Яны нічога не робяць, а часта ўрываюцца ў работу змен і адміністрыруюць. Прыходзяць яны да мяне на змену і заяўляюць, што „пасля змены ў цябе будзе сход рабочых“. Я аб гэтым сходзе да апошняй мінуты нічога не ведаў і не змог падрыхтаваць адпаведным чынам сход. Гэта пабівае маю ініцыятыву, не дае магчымасці мне як належыць наладзіць работу. Такое становішча мы абавязаны ліквідаваць

Таўкачоў Рыгор.

# Мала ячшэ аператыўнасці

Я была сакратаром партыйнай ячэйкі паккамарнага цэха. Функцыяналка, пісаніна і засядацельская сумятня раней заядалі партыйную арганізацыю нашай фабрыкі і нашу цэхавую ячэйку. Атрымаеш заданне агітмасавага сектара парткома, а там глядзіш другія сектары даюць заданні. Не ведаеш якое заданне важней, за вошта раней узяцца. Сходаў і нарад па плану намецяць шмат, а работы мала. Ды і сходы, намечаныя ў плане, не заўсёды правядзеш.

Зараз, пасля перабудовы я, парторг, арганізатар цэха, маю больш самастойнасці, нясу больш адказнасці. У мяне ўсе комуністы і беспартыйныя на ўліку. Любое ўзнікаючае пытанне вырашаю неадкладна. Калі сама не магу, збіраю партгрупу і хутка вырашаем пытанне.

У паккамарным цэху з 15 комуністаў 7 у часе чысткі партыі пераведзены ў спачуваючыя.

Комуністы атрымоўваюць непасрэдна ад мяне заданні, даючы заданні, я сама-ж іх правяраю. Наш цэх заядаў брак вытворчага, трэба было абвясціць жорсткую барацьбу браку. Сабралі мы парторггрупу, абмеркавалі гэта і рашылі арганізаваць брыгады для барацьбы за якасць паперы. Комуністка Цыганкова Маша ўзялася за гэту справу па баявому. Уцягнуліся і астатнія комуністкі і беспартыйныя рабочыя.

Нашы брыгады літаральна штурмавалі брыгады вытворчага цэха і іх babракаробаў. Гэтым справа яшчэ не канчалася. Буксірныя брыгады працягваюць змагацца за якасць, а Цыганкова Маша з гонарам выконвае даручанае ёй заданне.

Мы арганізавалі кансультацыю для падрыхтоўкі не ахопленых тэхнічнай вучобай і зараз ужо частка работніц трымала тэхэкзамен. Зараз яшчэ ахоплена тэхвучобай 10 чал., 7 комуністаў здалі тэхэкзамен на „отлично“.

Вось што можна сказаць аб першых кроках нашай работы па-новаму. Гэта, праўда, яшчэ далёка не ўсё, не дастае яшчэ аператыйнасці і канкрэтнасці ў рабоце. Недастаткова мы яшчэ наладзілі работу з кожным комуністам. Над вырашэннем гэтага і будзе рабо́таць зараз наша партгрупа і я, яе партарганізатар“.

**Кузміна Феня.**

Папяровая фабрыка „Герой працы“

---

„Первічныя арганізацыі совецкіх установ набываюць зараз вельмі важнае значэнне. Нельга думаць, што можна правесці ўсю работу па перабудове дзяржапарата без умацавання і паляпшэння совецкіх пярвічных партарганізацый. У некаторых выпрацоўваецца няправільныя, лёгкія адносіны да совецкай первічнай арганізацыі. Але хто-ж як не члены партыі ў совецкіх установах, забяспечаць перабудову дзяржапарата і паляпшэнне яго работы?

Іменна яны. Пагэтаму пярвічным партыйным арганізацыям у совецкіх установах трэба удзяляць належную увагу“.

(З даклада Л. М. Кагановіча на XVII партыйным з'ездзе).

**Вопыт Чырвонасцяжнай друкарні „Палесдрук“**

# Сталі перадавым вядучым цэхам


*Тав. Рабіновіч*

Засвоіўшы добра рашэнні 17-га з'езда партыі аб перабудове партработы, партарганізацыя чырвонасцяжнага набіральнага цэха Палесдруку ўшчыльную прыступіла да ажыццяўлення гэтай важнейшай справы.

Калі параўнаць работу раней існаваўшых цэхавых, нізавых партзвенняў, парт'ячэйкі, партарганізатара брыгад, партгруп з праводзімай цяпер партработай, то становіцца відавочным, наколькі мы раней дрэнна працавалі.

Зараз дзякуючы перабудове партработы і расстаноўцы партсіл наш цэх з'яўляецца перадавым па прадпрыемству: промфінплан увесь час перавыконваецца, якасць значна палепшана. За гэта цэх трымае пераходны сцяг.

Цэх—ініцыятар арганізацыі здачы соцтэхэкзамена. Дзякуючы праведзенай вялікай растлумачальнай рабоце як сярод моладзі, так і сярод кадравых рабочых на сёнешні дзень здалі соцтэхэкзамен 27 чалавек на „вельмі добра“, 25 чалавек—на „добра“ і 8 чалавек на „здавальняюча“. Кадравыя рабочыя амаль поўнасцю здалі соцтэхэкзамен. Комуністы і комсамольцы здалі першымі.

У цэху ёсць тры партгрупы, 1 комсамольская і арганізатар у вучнёўскай брыгадзе. Партгрупы штодзённай, канкрэтнай работай у брыгадах забяспечылі выкананне ўсіх стаячых перад імі гаспадарча-палітычных задач.

Лепшыя прыклады работы паказвае партгрупа 1-й брыгады (парторг **Гіршына**). У гэтай брыгадзе раней былі прарывы, як у вытворчай, так і ў грамадскай рабоце і гэта ў той час, калі ў першай брыгадзе работаюць самыя кваліфікаваныя кадравыя рабочыя. Партгрупа 1-й брыгады штодзённай, канкрэтнай напорыстай работай дабілася першынства па цэху. Кожны член партыі пачаў адчувацца, як і арганізатар-авангард, па іх сталі раўняцца ўсе рабочыя, так зараз актыўна ўдзельнічаюць у рабоце цэха вялікая колькасць раней адстаючых рабочых. **Слабадаў** з'яўляецца лепшым брыгадзірам лепшай брыгады, здаў соцтэхэкзамен на „вельмі добра“, за што цэхам абраны на злёт „отличников“.

Пасля перабудовы партработы ўмацавалася партдысцыпліна, павысілася адказнасць за выкананне кожным комуністам сваёй партнагрузкі. Вось факты. Кандыдат партыі т. **Шац** раней слаба выконваў партнагрузку і наогул недастаткова адчуваўся ў цэху, зараз-жа тав. **Шац** з'яўляецца лепшым фінударнікам на прадпрыемстве, добра наведвае ВПШ.

Парторг 2-й брыгады тав. **Флакс** паказаў добрыя прыклады работы і па брыгадзе і па цэху. Ён з'яўляецца старшынёй цэх. ячэйкі АСО, ячэйка яго з'яўляецца лепшай па прадпрыемству.

Партарганізацыя набіральнагага цэха дабілася гэтых поспехаў дзякуючы таму, што аператыўна, канкрэтна працуюць групарторгі. З групарторгамі, брыгадамі і кожным комуністам паасобку вядзецца жывая гутарка і аднáчасова кантралюецца выкананне нагрузкі кожным комуністам. Часта пасля работы я склікаю комуністаў на 15-20 мінут, дзе хутка вырашаю пытанні прынцыповага характару.

У цэху ёсць адзін спачуваючы т. Брук, зараз ён з'яўляецца добрым ударнікам, рэдактарам штодзёнкі, наведвае школу. Арганізоўваюцца групы спачуваючых. Да кожнага члена партыі прымацавана некалькі беспартыйных рабочых, з якімі штодзённа вядзецца выхаваўчая работа.

Абавязак партарганізацыі набіральнага цэха—гэтыя метады работы і дасягненні моцна замацаваць, па-большэвіцку знішчыць маючыяся недахопы.

Неабходна адзначыць, што гэтых перамог мы дасягнулі ў рэзультаце практычнай дапамогі прымацаванага да нашага калектыва інструктара ГК КП(б)Б тав. Дзятковай; яна вядзе растлумачальную работу сярод комуністаў, чым дапамагае нам у рабоце.

Парторг Рабіновіч.



# Тэхніка вырашыла перамогу

Партыйным арганізатарам машыннага цэха Палесдрука працую два месяцы. У цэнтр усёй сваёй работы я паставіў барацьбу за асваенне тэхнікі.

Мы сталі перад фактам, што некаторая частка работнікаў не магла забяспечыць выкананне промфінплана, у рэзультаце сваёй непісменнасці—няведання новай тэхнікі, у сувязі з установкай новых больш складаных машын.

Такое становішча паставіла перада мною, як партыйным арганізатарам цэха, задачу ўнядрэння тэхнікі, ператварэння ўсіх рабочых ва ўдарнікаў, асваення новых машын, арганізацыі тэхнічных гурткоў вучобы на добрых прыкладах, толькі гэтым мы змаглі паставіць увесь цэх на шлях аўладання тэхнікай.

Як мы ўзяліся за гэтую справу і якія маем вынікі?

Разгортванне масава-растлумачальнай работы дало нам магчымасць уцягнуць усіх рабочых у вучобу, у аўладанне новай тэхнікай. Як новы метад, мы пачалі праводзіць дома ў старых рабочых сустрэчы за шклянкай чая. Тут мы ставілі канкрэтна пытанне аб нашай рабоце і аб недахопах у цэху. У парадку абмену, лепшая частка нашых рабочых дзялілася вопытам сваёй работы,—вучыла адстаючых.

Для таго, каб ліквідаваць агульнае адставанне я звярнуў асаблівую ўвагу на падцягванне адстаючых брыгад. Калі ў брыгадзе імя Гікало мелі месца зніжэнне працдысцыпліны, абязлічка, то мы ўмацавалі гэту брыгаду больш моцным членам партыі тав. Звагельскім, які на падставе рашэнняў 17-га партз'езда, шырока разгарнуў партыйна-масавую работу ў брыгадзе і зараз брыгада набліжаецца да перадавых.

Нашу перамогу, як я ўжо казаў, вырашае вывучэнне тэхнікі. Мы пачалі праводзіць масавае вывучэнне складаных варштатаў, потым арганізавалі здачу тэхэкзамена. Старыя кадравікі ўзялі шэфства над маладымі. Такая ўвага да тэхнікі забяспечыла нам перамогу, на сёнешні дзень тэхэкзамен здалі 55 чалавек, з якіх на „вельмі добра" 16 і на „добра"—36. Само правядзенне такіх залікаў з'явілася моцным сродкам у аўладанні новай тэхнікай, вывучэнні складаных варштатаў.

Начальнік цэха—ізотавец, член партыі Аронаў—пачаў навучаць рабочых тэхніцы, пад яго кіраўніцтвам былі арганізаваны тры гурткі.

Шырокае вывучэнне тэхнікі дало нам першыя рэзультаты. Цэх пачаў сістэматычна выконваць промфінплан на 104—105 проц. Рабочыя, вывучыўшы новыя варштаты, бесперабойна пачалі выконваць промфінплан. Маладыя рабочыя Басонік, Баброў, здаўшыя тэхэкзамен, пераведзены з накладчыкаў у друкары. Накладчыкі Рабіновіч, Шыфрын, Кузняцоў і іншыя „отличники" пераведзены ў вышэйшыя разрады. „Отличники" Сегал, Ліфшыц, Сусловіч штодзённа выконваюць свой промфінплан на 110—115 проц.

Пад кіраўніцтвам партарганізацыі „отличники" арганізавалі баявы паход супроць браку.

Падхапіўшы ініцыятыву ўдарнікаў Данбаса, „отличники" сталі арганізатарамі стварэння ячэек „ЗОТ". Так мае першыя крокі забяспечылі перамогу.

Парторг **Волкінд.**



*Тав. Бабушкін*



*Тав. Аронаў*

Швейная фабрыка „Комінтэрн“

# Першыя рэзультаты перабудовы

На падставе рашэнняў 17-га з'езда ВКП(б) і практычных указанняў гаркома партыі, партыйны калектыў фабрыкі „Комінтэрн“ прыступіў да перабудовы партыйнай работы на фабрыцы, з такім разлікам, каб наблізіць партыйную работу да кожнай брыгады, да кожнага ўчастка.

Да перабудовы мы мелі на фабрыцы 5 цэхавых парт. ячэек, 8 партгруп і 12 парторгаў, што значна распыляла ўсю работу, акрамя гэтага і гаспадарчае кіраўніцтва было пабудавана па функцыяльнай сістэме, няўзгодненасць у рабоце цэхаў: пінжачнага, бручнага і жылетачнага прыводзіла да таго, што жылеткі не падыходзілі да размераў пінжака і брук, з-за чаго затрымлівалі гарнітур на складзе, ён не даходзіў своечасова да спажыўца.

Разам з партыйнай работай мы перабудавалі і гаспадарчае кіраўніцтва. Стварылі на фабрыцы адзіны цэх гарнітураў пад адзіным гаспадарчым кіраўніцтвам; гэта дало нам магчымасць наладзіць сувязь паміж лентамі, і зараз гарнітур выходзіць з цэха ўжо камплектным. Замест 2-х цэхавых парт'ячэек у гэтым цэху, які налічвае больш 500 рабочых і 70 комуністаў, ёсць адзін парторг. цэха і 7 партыйных груп. Расставілі партыйныя сілы з такім разлікам, каб кожны ўчастак быў забяспечан партыйным уплывам.

Зусім нядаўна фабрыка знаходзілася ў глыбокім прарыве па выкананню плана і зусім заслужана ў мясцовым і цэнтральным друку крытыкавалася работа.

Ліст сакратара ГК КП(б)Б т. Шафарэнка прымусіў не толькі трохкутнік фабрыкі, але і ўсю партыйную арганізацыю з ўсёй сур'ёзнасцю ўзяцца за разгортванне партмасавай работы, насыціўшы яе палітычным зместам. І сапраўды выконваючы ўказанні ліста сакратара ГК, ператвараючы іх у канкрэтныя справы, мы дабіліся добрых вынікаў у выкананні плана і паляпшэнні якасці прадукцыіі; гэта відаць на рабоце паасобных партгруп:

Партгрупа Брэйдзінай (брыгадзір Блюдзіна) свой план за красавік выканала на 100,8 проц.

Партгрупа Бабушкіна (брыгадзір кандыдат партыі т. Урбас) свой план за красавік выканала на 104,8 проц.

Партгрупа Райхман (брыгадзір Хайтовіч) свой красавіцкі план выканала на 105,6 проц. Такое становішча амаль ва ўсіх брыгадах.

Кожная партгрупа, у адказ на соцыялістычны рахунак горкаўскіх рабочых, разгарнула актыўную работу па паляпшэнню якасці прадукцыі, некаторыя вынікі ў гэтым напрамку мы ўжо маем па цэху гарнітураў, там, дзе барацьба за якасць прадукцыі стала сапраўды штодзённай работай кожнай партгрупы і брыгады паасобку.

Палепшылася работа нашых талстовачных лент, якія доўгі час цягнулі фабрыку назад.

За красавік план па фабрыцы выканан на 101,2 проц, гэтаму ў значнай меры спрыяла рэалізацыя ўказанняў ГК па пытанню тэхнічнай вучобы. Зараз тэхнічнай вучобай па фабрыцы ахоплена 797 чал., з якіх тэхэкзамен здалі-- 161 чал., з іх „отличников“—102 чал. Тэхнічная вучоба іменна і з'явілася моцным сродкам у барацьбе за асваенне новага асартымента.

Зараз на фабрыцы разгортваецца работа сярод брыгад на лепшую брыгаду—на прысваенне адной з лепшых брыгад за лепшыя паказальнікі работы імя правадыра партыі тав. Сталіна.

Брыгада т. Сорына—ленты штаноў—абавязалася поўнасцю знішчыць пераробкі, здаваць з ленты штаны 100-процантнай якасці. Першыя крокі ў гэтым напрамку даюць некаторыя station некаторыя становучыя вынікі. З гэтай ленты рабочы, які выключна спраўляў пераробкі, пераведзен на іншую работу.

План за 15 дзён мая выканан на 100,4%.

Праўда, ёсць яшчэ многа непаладкаў, яшчэ не ўсе партгрупы сталі ўзорамі работы, ёсць і адстаючыя ўчасткі.

Задачай партарганізацыі фабрыкі і ўсяго рабочага калектыва з'яўляецца—барацьба за ліквідацыю прарыва 1-га квартала і поўнага выканання плана 1-га поўгоддзя 2-га года 2-й пяцігодкі.

Гут.

Камбінат „Спартак“

# За лепшую работу атрымалі пераходны сцяг

У часе перабудовы партработы ў мяккім цэху камбіната „Спартак“ шмат было ўдзелена ўвагі расстаноўцы партыйных сіл, вывучэнню кожнага члена партыі. Ліквідацыя засядацельскай сумятні дала магчымасць кіраваць больш канкрэтна, аператыўна. З работай зменных майстроў т.т. Жлабінскага і Лейкіна зараз я знаёмлюся, таму штодзённа мы сумесна змагаемся з бракам як галоўнай хваробай. Калі заўважыў бруд і непарадак у зменах на завёртцы, я зараз-жа выклікаў майстроў, пагутарыў з імі і людзі зразумелі важнасць чыстаты ў цэху, выправілі заўважаныя памылкі.

Вялікую работу правяла партгрупа па рэалізацыі пазыкі другога года другой пяцігодкі. На працягу 12 гадзін усе 307 рабочых былі ахоплены падпіскай на пазыку. Заданне было выканана на 114 проц.

Нядрэнна з выпіскай і чытаемасцю газет. „Праўду“ выпісваюць і чытаюць 7 ч., „Звязду“—9 ч., „Палескую праўду“—4 ч. Рад таварышоў выпісваюць часопіс „Большэвік“. Членскія і партыйныя ўзносы ўнесены ўсімі членамі і кандыдатамі партыі па красавік месяц.

Вось рэзультаты работы цэха ў сувязі з перабудовай партработы. Студзеньскі план у 168 тон, а далі мы 128 тон, што складае 76 проц. Прадукцыйнасць працы—114 проц. Лютаўскі план--154 тоны, далі 157 тон, ці 102 проц. Прадукцыйнасць працы—125 проц. У сакавіку (план 174 тоны) мы далі 184 тоны ці 105,8 проц. Прадукцыйнасць працы—142 проц.

Рыхтуючыся да першамайскіх свят, партгрупа мабілізавала ўсіх рабочых цэха на датэрміновае выкананне плана. 22 красавіка план па цэху быў выкананы на 105,8 проц., што складала 93 проц. да месячнага задання.

За аўладанне тэхнікай, за санітарнае становішча цэха мы змагаемся штодзённа, праводзячы вялікую масава-растлумачальную работу.

Рабочы калектыў мяккага цэха на чале з партгрупай 3 гады трымае за лепшую работу пераходны камбінацкі сцяг. Мы ўпэўнены, што і зараз, пры рабоце па-новаму, будзем існі перадавікамі ў спаборніцтве паміж цэхамі камбіната.

Парторг Калпін.

---

„Праверка выканання павінна быць сістэматычнай і штодзённай, а не эпізадычнай, ад выпадка да выпадка... Кантроль трэба ўзняць і падцягнуць да аператыўнага кіраўніцтва, інакш мы атрымаем разрыў паміж кіраўніцтвам і праверкай выканання. Для ажыццяўлення сапраўды канкрэтнага і аператыўнага кантроля ствараюцца замест ЦКК-РСІ камісіі выканання—камісіі партыйнага і савецкага кантроля“.

(З даклада Л. М. Кагановіча на XVII партыйным з'ездзе).

# У барацьбе за падрыхтоўку высокаякасных пралетарскіх спецыялістаў

Наш факультэт лесаэксплаатацыі і транспарту з‘яўляецца вядучым факультэтам у Беларускім лесатэхнічным інстытуце. У гэтым годзе факультэт дабіўся звання вядучага не толькі па сваёй спецыяльнасці, а на працягу ўсяго навучальнага году ён з‘яўляецца вядучым, перадавым па ўсіх паказальніках работы.

Перадавога месца ў інстытуце факультэт дабіўся ў выніку ўсведамлення калектывам студэнцтва і навуковых работнікаў, і ў першую чаргу, кіраўнікамі задач, пастаўленых партыяй і ўрадам, у падрыхтоўцы высокаясных пралетарскіх спецыялістаў, у выніку барацьбы за выкананне вядомых пастаноў партыі і ўрада аб сярэдняй і вышэйшай школе.

Трэба сказаць, што сапраўды па-бальшэвіцку мы пачалі змагацца за якасць вучобы, за выкананне пастаноў толькі ў пачатку гэтага навучальнага году. Увесь мінулы год пайшоў на „перабудову“, на складанне планаў і праграм, якія мы атрымалі толькі ў канцы навучальнага году. Тая цякучасць, якую мы мелі ў мінулым годзе (адсеў звыш 33 чалавек па факультэту), безумоўна не магла не адбіцца на паніжэнні якасці ўсёй работы.

Новы навучальны год мы сустрэлі з 74 „хвастамі“, застаўшыміся пасля сесіі. Пад кіраўніцтвам партарганізацыі, якая мабілізавала актыў і ўсю грамадскасць, мы павялі барацьбу за ліквідацыю хвастоў, за павышэнне якасці вучобы, за падняцце дысцыпліны.

Вялікім стымулам у нашай рабоце з‘явілася ўстанаўленне трохкутнікам інстытута чырвонага пераходнага сцягу. К першаму пасяджэнню арбітражнай камісіі 5 снежня 1933 г., мы прышлі толькі з 2-ма „хвастамі“, пры 2-х гадзінах прагулаў за 2 мес., даўшы па факультэту паспяваемасць на „вельмі добра“—12, 6 проц., на „добра“—34, 8 проц. і толькі 6,5 проц. „нездавальняюча“. Факультэт атрымлівае чырвоны пераходны сцяг, як лепшы ў інстытуце.

Гэтыя лічбы сведчылі толькі пра добры пачатак работы, яны нас безумоўна не задавальнялі. Пры атрыманні пераходнага сцяга мы ўзялі на сябе абавязак дабіцца паспяваемасці не менш 60 проц. на адзнакі „вельмі добра“ і „добра“, брак звесці да нуля. Першае паўгоддзе і зімнюю заліковую сесію мы скончылі з наступнымі паказальнікамі: на „добра“ і „вельмі добра“ 59,6 проц. і 4,3 проц. „нездавальняюча“.

Калі-б мы не супакоіліся на дасягнутым, а зразу пасля зімовага адпачынку ўзяліся працягваць барацьбу, то зараз безумоўна, мелі-б куды лепшыя вынікі, чым мы іх маем.

Толькі перабудова партарганізацыі, на аснове рашэння XVII з‘езда ВКП(б) у канцы лютага ўскалыхнула работу.

Што мы маем у выніку перабудовы? Раней неяк па традыцыі ўкаранілася, што сакратар кіраваў праз бюро ячэйкі, пастановамі, а сапраўды жывога, аператыўнага кіраўніцтва не было. На пасяджэнні ў людзей трацілася шмат часу, а комуністы не адчувалі той адказнасці, якую яны павінны несці.

Наша партарганізацыя факультэта невялікая—5 членаў і 4 кандыдаты партыі, з якіх 1 член партыі на першым курсе, 3 кандыдаты—на другім і 5 членаў—на IV курсе.

Першым звяном, за якое я ўхваціўся пасля абрання мяне парторгам, была работа: пакончыць з канікулярнай спячкай, ліквідаваць „хвасты“, узняць якасць. Па другому курсу і па іншых комуністы самі былі абраслі „хвастамі“. Прышлося з іх пачынаць работу.

Я стараюся кіраваць штодзённа ўсімі галоўнейшымі ўчасткамі работы, не абмяжоўваюся толькі даручэннямі, а сам іду ў групы і праводжу работу. Адчуваю і сам зараз жывое, канкрэтнае кіраўніцтва з боку інструктара ГК КП(б)Б, якога раней зусім не бачыў.

На 13 красавіка мы дабіліся якасных паказальнікаў па здаваемых дысцыплінах, даўшы па факультэту адзнакі на „вельмі добра“ і „добра“—69,3 проц., асталося два з „хвастамі“. З-за адсутнасці сістэматычнай работы ў пачатку другога семестра, мы далі пры бягучай ацэнцы толькі 48,7 проц. на „вельмі добра“ і „добра“ і 7,3 на „нездавальняюча“, а таксама 38 гадзін прагулаў. Безумоўна, правільным было рашэнне арбітражнай камісіі аб адабранні ад факуль-

тэта пераходнага сцяга. Другім факультэтам сцяг не быў перададзены, бо яны яшчэ больш адставалі.

Зараз напружаем усю энергію, каб выканаць поўнасцю майскі план работы і вярнуць пераходны сцяг.

У нас ёсць людзі з комсамольскага і беспартыйнага актыва, якія разам з парцарганізацыяй хварэюць за нашы недахопы, радуюцца нашым поспехам. Напрыклад: тт. **Варонін, Чарны, Гусінцава, Пускін, Юройц** (комсамольцы), таварыш **Міхайлава** (беспартыйная) яны з'яўляюцца „отличниками" ва ўсёй рабоце. Але ёсць людзі, якія свядома зрываюць работу, напрыклад: т. **Жалезка** на 1-м курсе, які падрывае дысцыпліну, плюе на грамадскае ўздзейнічанне і ігнаруе соцспаборніцтва. Ёсць і комуністы, якія не служаць прыкладам, напрыклад, **Шчочын** не выконвае грамадскай работы, робіць прагулы, зрывае работу па культсанмінімуму.

Мы ў гэтам годзе шмат чаго зрабілі ў галіне партвыхаваўчай работы. Больш нармальна работаюць палітгурткі. Палітзалік па дакладу т. СТАЛІНА усе студэнты, за выключэннем 4, здалі на „вельмі добра" і „добра". Мы яшчэ не дабіліся глыбокай работы кожнага студэнта над павышэннем свайго палітузроўня. Ёсць студэнты, якія зусім не чытаюць газет. Напрыклад, студэнтка **Рыўкіна** на пытанне—хто такі Тэльман, адказвае, што Тэльман, „закляты вораг совецкай улады, судзіўся за шкодніцтва". Ёсць і комуністы, якія не чыталі газет (**Пакроўскі**, 1-шы курс).

Грамадская работа ў гэтым годзе таксама пастаўлена значна лепш, чым у мінулым, на нашым факультэце лепш, чым на другіх, але далёка недастаткова, гэта можна сказаць, толькі пачатак. Масавая работа яшчэ недастаткова разгорнута.

У нас арганізуецца група спачуваючых (ужо ёсць 3 чал.). Перад намі стаіць задача наладзіць палітвыхаваўчую работу з імі, а таксама з беспартыйным актывам, зрабіць актыў стойкімі барацьбітамі за нашы задачы.

Галоўнае, чаго нам не хапае—гэта культурнасці. Артыкул т. Клавіна „Встреча" поўнасцю падыходзіць і да нашага факультэта.

Без вырашэння ўсёй складанасці стаячых перад намі задач, безумоўна, мы не зможам падрыхтаваць такога спецыяліста, якога патрабуе ад нас комуністычная партыя і совецкая ўлада. За выкананне ўсіх гэтых задач мы будзем змагацца.

Парторг факультэта **Лейчык**.

**Ад рэдакцыі:** Артыкул парторга **Лейчыка** паказвае, што не гледзячы на перабудову партыйнай работы, аб якой ён піша, работа факультэта за апошні час пагоршылася. І таму „безумоўна правільным было-б рашэнне арбітражнай камісіі аб адабранні ад факультэта пераходнага сцяга".

Гэта значыць, перабудова партыйнай работы праведзена фармальна, комуніст не стаў цэнтрам перабудовы. Парторганізатар не мог забяспечыць партыйна-комсамольскім уплывам усе курсы. Там нават пры наяўнасці неабходнай колькасці комуністаў і комсамольцаў не арганізаваны групы. Усё яшчэ існуюць старыя формы і метады работы, а падчас і засядацельская мітусня. Задача партыйнай арганізацыі факультэта зараз-жа перабудаваць партработу у адпаведнасці з рашэннямі XVII партз'езда.

# Працаваць яшчэ лепш!

Пасля рашэнняў 17 партз'езда становішча жыллёвай кааперацыі Гомеля карэнным чынам змянілася. У горжылсаюзе ліквідавана функцыяналка ў кіраўніцтве і сістэма габінетных распараджэнняў, што дало станоўчыя рэзультаты ў рабоце ўсёй нізавой сеткі жактаў і ЖБКТ.

Перабудова сістэмы работы апарата дала магчымасць больш планамерна і своечасова правесці падрыхтоўчую кампанію да рамонтна-будаўнічага сезона.

У сакавіку праз мясцовы комунбанк былі спушчаны крэдыты: на рамонт—640 тысяч руб. і на новае будаўніцтва—360 тысяч руб. Адначасова з афармленнем крэдытаў былі атрыманы дэталёва складзеныя тытульныя спісы аб'ектаў капітальнага і сярэдняга рамонтаў, і намечаны пляцоўкі для новых будаўніцтваў. Агульная колькасць зацверджаных к рамонту дамоў—126, выключна каменных, больш каштоўных будынкаў, а па-новаму будаўніцтву—2 каменныя 3 і 4-павярховыя на 44 кватэры.

На аснове пастановы бюро Гаркома была праведзена вялікая работа па ўпарадкаванню горада і прывядзенню нашых жактаў у чысты выгляд. Жакты, якія раней лічыліся самымі бруднымі па гораду, зараз становяцца лепшымі па чыстаце. Работа па ўпарадкаванню горада праведзена нядрэнна, дзякуючы канкрэтнаму кіраўніцтву гаркома. Вялікую ролю ў гэтай рабоце адыграла соцспаборніцтва і ўдарніцтва, масавыя суботнікі па ўборцы і азеляненню горада.

У сувязі з правядзеннем 2-х дэкадніка, абвешчанага бюро гаркома, горжылсаюзам праводзіцца конкурс на лепшы жакт. Шмат старшынь жактаў паказалі на справе, як патрэбна змагацца за аздараўленне рабочых кватэр, за культурны выгляд пролетарскага горада. Тав. Руманоўскі—з 16 жакта, Лібман—з 8 жакта і Сіроткін—з 15 жакта паказалі сябе на рабоце як большэвікі.

У сувязі з конкурсам значна зменшылася запазычанасць па кватэрплаце. Калі на 1 студзеня мы мелі запазычанасць за 3 месяцы, што складала 86 тысяч руб., то к канцу красавіка запазычанасць ёсць за 5 тыдняў, што складае 34 тысячы руб.

Некаторае паляпшэнне і ў культмасавай рабоце ў жактах. Зараз культмасавая работа праводзіцца ў асноўным з неарганізаваным насельніцтвам—з 6 тысячамі дамашніх гаспадынь, з якіх усяго 20-30 проц. занята на вытворчасці.

Рэгулярная культ-масавая работа заключаецца ў функцыянаванні пры жактах дэлегацкіх інстытутаў, школ па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці, гурткоў АСО, Чырвонага крыжу і інш. Ёсць 4 дзіцячыя сады, якімі ахоплена 380 дзяцей дашкольнага ўзросту.

Здавальняюча праведзена кампанія па рэалізацыі пазыкі „Другі год другой пяцігодкі". Заданне перавыканана на 1,35 проц., а сумарна гэта выражаецца ў 45.800 руб. Параўноўваючы гэту лічбу з мінулагодняй мы маем павышэнне на 50 проц.

Усё дасягнутае з'яўляецца, безумоўна, вынікам правільнай і своечасовай перабудовы апарата ГЖС і партыйнай арганізацыі, набліжэння кіруючых органаў к масам і больш цеснай аператыўнай сувязі, дапамозе парткома. Гэта сувязь заключаецца не ў адміністрацыйна-габінетных распараджэннях, а ў штодзённым практычным кіраўніцтве і кантролі за выкананнем.

Становішча новага будаўніцтва далёка нас не задавальняе. Да гэтага часу яшчэ не прыслан тыповы праект 3-4-павярховага каменнага дома: зямельныя ўчасткі яшчэ не аслабанены ад прызначаных на знос старых дамоў, адсутнічае патрэбная колькасць цэглы і інш. мясцовых матэрыялаў. Новае будаўніцтва разгортваецца пакуль вельмі марудна.

Наша бліжэйшая задача замацаваць маючыяся дасягненні і фарсаваць новае будаўніцтва. Мы маем усе магчымасці работаць узорна.

Сакратар парткома **Левіт.**

# Соўгас стаў перадавым, вядучым

У час веснавой сяўбы 1933 года конесоўгас № 59 ганебна адставаў, за што ўвесь час знаходзіўся на чорнай дошцы.

У гэтым годзе соўгас да 1 мая скончыў усю сяўбу і дапамог соўгасу „Васільеўск" ліквідаваць прарыў і таксама дапамог каапгасу „Эмес", Прудкоўскаму сельсовету і прыгараднай гаспадарцы камбіната імя Гікало. Зараз паслана буксірная брыгада для ліквідацыі прарыву ў конесоўгас № 90.

Партарганізацыя соўгаса налічвае 13 членаў партыі і 5 кандыдатаў (з іх 2 пераведзеныя па чыстцы). Партыйныя сілы да пачатку сяўбы былі расстаўлены па асноўных участках соўгаса: коневодству, паляводству і інш. Дырэктар тав. Горагляд і парторг тав. Карнееў былі прымацаваны да буйнейшага аддзялення соўгаса—„Навасёлкі", старшыня рабачкома—да аддзялення „Маяк", Качалін—да Прудкоўскага аддзялення і г. д.

Партком патрабаваў ад кожнага камуніста і комсамольца адказнасці за даручаную яму работу. Уся работа парткома была накіравана на выкананне дырэктыў бюро ГК КП(б)Б ад 16 сакавіка 1934 года аб падрыхтоўцы да сяўбы. Перш за ўсё была вытварана ачыстка соўгаса ад класава-чужых элементаў. Падабраны кадр высокакваліфікаваных рабочых.

З прычыны недахопу рабочых коняй былі заключаны дагавары з конебазамі і з пульэскадронам на абработку палёў. Паслана некалькі адказных таварышоў для вярбоўкі рабочай сілы. Упершыню ўвесь яравы клін (1500 га) поўнасцю забяспечан угнаеннем.

Ва ўсіх аддзяленнях соўгаса адкрыты сталоўкі, у якіх 3 разы ў дзень рабочым адпускаюцца добраякасныя стравы.

Цякучасці рабочай сілы няма. Яшчэ да сяўбы вытворчы план быў прапрацован на ўсіх участках і даведзен да кожнага рабочага, праведзена масавая работа. Былі заключаны дагавары паміж брыгадамі і звеннямі: так, жаночая брыгада аратаяў Лапіцкай („Маяк"), замест 0,70 га, узорвала па 0,85 га. Ні адзін конь не прыставаў. З ёю спаборнічала брыгада аратаяў мужчын, якая ўзорвала па 0,90 га.

У гэтым годзе работа трактарыстаў працякала без перабояў; прыклады паказвалі комуністы і комсамольцы. Кандыдат партыі Бурыкін М. (трактарыст) з'яўляецца інспектарам па якасці, абходзіць поле і правярае якасць работы. Кандыдат партыі Клімоўскі А., брыгадзір трактарнай брыгады, паказвае добрыя прыклады работы: калі многія з трактарыстаў хварэлі, ён на працягу 6 дзён работаў на трактары ў 2 змены; яму дапамагаў брыгадзір Карапатаў. Перавыконвае сваю норму і трактарыст Фіменка. За ўвесь час сяўбы яго трактар не быў у рамонце.

Любіць сваю справу трактарыст Бражнікаў, у яго, як усе гавораць, машына работае, як гадзіннік.

Добрыя прыклады работы паказваюць комуністы і беспартыйныя рабочыя на асноўным участку соўгаса—коневодстве.

Член партыі Нікіцін, які работае ў якасці пам. наезніка, разгарнуў спаборніцтва паміж канюхамі на лепшы догляд за маладняком. Пры праверцы вынікаў спаборніцтва было адзначана, што яго канюшня з'яўляецца ўзорнай па ўсіх паказальніках—па чыстаце, упітанасці маладняка і г. д.

Санітар матачнага аддзялення ў Новасёлках комсамолец Афанасенка Рыгор у выпадку захварэння конематкі хутка прыймае ўсе захады, каб аказаць ёй ветэрынарную дапамогу. Яго прыкладу следуе работніца Ломіна.

Прысланыя нядаўна з Ленінграда 9 конематак былі дрэннай упітанасці, але зараз, дзякуючы добраму догляду, яны паправіліся, і ў выніку колькасць выпадкаў абартавання конематак, у параўнанні з мінулым годам, значна зменшылася.

На дошках спаборніцтва штодзённа адзначаўся ход спаборніцтва як ўнутры соўгаса, так і паміж конесоўгасам і соўгасам імя Ланге. Вынікі спаборніцтва штодзённа абвяшчаліся перад выхадам рабочых на нарад.

Партком перабудаваў сваю работу так, што на асобныя недахопы хутка рэагуюць, без засядацельскай мітусні. Кандыдат партыі тав. Харчанка, акрамя сваей прыкладнасці ў рабоце як каваль, проста душой хварэе за кожную ненармальнасць і аб іх сігналізуе трохкутніку, дабіваючыся іх зжывання.

Ёсць яшчэ, аднак, і недахопы. Слаба выхаваўчая работа сярод комуністаў і рабочых, партвучоба спынілася. Нядаўна паступіла 3 заявы ад рабочых аб прыёме іх у спачуваючыя, але ніякай работы з імі не вядзецца. Партпрымацаваны да комсамольскай ячэйкі тав. Качалін нічога не робіць, матывуючы сваёй занятасцю гаспадаркай, а таксама пасіўна адносіцца да сваіх партнагрузак брыгадзір жарабятнага цэха Нэруш Д., Мэзель Е. і інш. Здзельшчына не ўжываецца яшчэ. Толькі зараз вывучаюць гэтае пытанне. Насценгазета выходзіць нерэгулярна, на допісы не рэагуюць.

Усе гэтыя недахопы павінны быць неадкладна знішчаны, каб паспяхова правесці праполку і ўборку ўраджаю.

**Кантар.**

---

„З‘езд КП(б)Б упэўнен, што ўся маса калгаснікаў у БССР і работнікі соўгасаў яшчэ цясней згуртуюцца вакол партыі Леніна—Сталіна, паднімуць сваю вытворчую творчаскую актыўнасць, умацуюць калгасную дысцыпліну, узмоцняць рэволюцыйную пільнасць і, ліквідуючы астаткі кулацтва, замацуюць на кожным кроку дасягнутыя поспехі, строга ахоўваючы калгаснае дабро, ажыццяўляючы пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі лозунг вялікага правадыра і настаўніка — тав. Сталіна—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі“.

*(З пастановы XV з‘езда КП(б)Б)*

# Рашэнні XVII партз'езда—у масы

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Завяршэнне рэканструкцыі народнай гаспадаркі—важнейшая рашаючая задача ў другой пяцігодцы

„Гляньце на карту РСФСР,—гаварыў Уладзімір Ільіч,—на поўнач ад Волагды, на паўднёвы ўсход ад Растова-на-Доне і ад Саратава, на поўдзень ад Орэнбурга і ад Омска, на поўнач ад Томска ідуць бязмежнейшыя прасторы, на якіх умясціліся-б дзесяткі аграмадных культурных дзяржаў. І на ўсіх гэтых прасторах пануе патрыярхальшчына, поўдзікасць і самая сапраўдная дзікасць. А ў сялянскіх захалусцях усёй астатняй Расіі? Усюды, дзе дзесяткі вёрст прасёлка, вярней, дзесяткі вёрст бездарожжа аддзяляюць вёску ад чыгунак, г. зн. матар'яльнай сувязі з культурай, з капіталізмам, з буйнай прамысловасцю, з вялікімі гарадамі, хіба, не пераважае ўсюды ў гэтых месцах тая-ж патрыярхальшчына, абломаўшчына, поўдзікасць" (Ленін, т. XXI, выд. 2, стар. 338).

Вось што прадстаўляў сабою Савецкі Саюз паводле азначэння Леніна ў 1921 г.

Што-ж мы маем цяпер, у сучасны момант? За гэтыя гады, асабліва за гады першай пяцігодкі наша краіна ў корані перамяніла свой твар. СССР пад кіраўніцтвам кампартыі і яе геніяльнага правадыра тав. Сталіна сямімільнымі крокамі прасунуўся ўперад. Тав. Сталін у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе партыі з выключнаю сілай падкрэсліў новае, ператворанае аблічча СССР.

„З краіны аграрнай,—сказаў таварыш Сталін,—ён стаў краінай індустрыяльнай. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі ён стаў краінай калектыўнай, буйнай механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай, непісьменнай, некультурнай ён стаў, вярней становіцца, краінай пісьменнай і культурнай, пакрытай агромнай сеццю вышэйшых, сярэдніх школ, дзеючых на мовах нацыянальнасцей СССР".

Як указвае тав. Сталін, наш рост быў не толькі простым колькасным накапленнем сіл. Уздым нашай краіны выдатны тым, што ён унёс прынцыповыя змены ў структуру СССР.

Ленін у сваім артыкуле „Аб харчовым падатку" у 1921 г., характарызуючы грамадска-эканамічныя ўклады нашай краіны, указаў на пяць элементаў: 1) патрыярхальная, г. зн. у значнай меры натуральная сялянская гаспадарка, 2) дробнатаварная вытворчасць, 3) прыватнагаспадарчы капіталізм; 4) дзяржаўны капіталізм; 5) соцыялізм. Вось гэтымі 5-ю пераплятаючыміся паміж сабою элементамі характарызаваўся грамадска-эканамічны ўклад Расіі год 10—13 таму назад.

Які-ж з указаных грамадска-эканамічных укладаў з'яўляўся пераважаючым? На гэта пытанне Ленін адказваў:

„Ясная справа, што ў дробнасялянскай краіне пераважае і не можа не пераважаць дробна-буржуазная стыхія".

Тав. Сталін у снежні 1929 г. у сваёй прамове на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў таксама адзначаў рознаўкладнасць

нашай краіны, указаў на неабходнасць устараніць, перамагчы гэтую рознаўкладнасць:

„Ці можна на працягу больш ці менш доўгага перыяду часу базіраваць савецкую ўладу і соцыялістычнае будаўніцтва на двух розных асновах, на аснове самай буйнай аб'яднанай соцыялістычнай прамысловасці і на аснове самай раздробленай і адсталай дробна-таварнай сялянскай гаспадаркі?“... „Не, нельга. Гэта калі-небудзь павінна кончыцца поўным правалам усёй народнай гаспадаркі“.

Ці можна ў даны момант гаварыць аб наяўнасці 5-ці розных укладаў у нашай краіне, як аб гэтым пісаў Ленін у 1921 г., ці аб двух розных укладах, двух розных асновах, як аб гэтым гаварыў т. Сталін у 1929 г.? Не, нельга.

„Соцыялістычны уклад з'яўляецца непадзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы“.

Вось чым характарызуецца па ўказанню тав. Сталіна, сёнешні дзень эканомікі нашай краіны. За гэтыя гады СССР пад кіраўніцтвам ленінскай партыі прашоў агромны слаўны шлях перамножнага будаўніцтва соцыялізма. Пытанне „хто-каго“, пастаўленае Леніным, вырашана канчаткова і беспаваротна на карысць соцыялізма і ў горадзе і ў вёсцы. Мы пабудавалі фундамент соцыялістычнай эканомікі. СССР беспаваротна і канчаткова ўмацаваўся на соцыялістычным шляху. Разгарнулася агромная паласа тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі. У адзнаку ад капіталістычных краін, дзе прадаўжае бушаваць вострыэканамічны крызіс на аснове агульнага крызіса капіталізма, СССР з'яўляецца адзінай краінай, якая няўхільна і безупынна ідзе пад знакам росту ўмацавання і росквіту прадукцыйных сіл краіны, росквіту навукі і тэхнікі і рашучага палепшання добрабыту шырокіх працоўных мас. Вырашана труднейшая задача, пабудован фундамент соцыялістычнай эканомікі. Усё гэта разам узятае адкрывае новыя перспективы. Гэта дае магчымасць пабудаваць самы будынак новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Вялікі гістарычны XVII з'езд нашай партыі тым і выдатны, што ён намеціў канкрэтную практычную праграму пабудовы гэтага новага велічнага будынку.

У праграме другой пяцігодкі, прынятай XVII з'ездам партыі, указаны наступныя важнейшыя задачы, якія павінны быць вырашаны ў другой пяцігодцы. Першая і разам з тым асноўная палітычная задача другой пяцігодкі—„канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавую рознасць і эксплаатацыю, перамога перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства“. Другая задача—„далейшы ўздым добрабыту рабочых і калгасных мас і павышэнне ўзроўню спажывання працоўных у $2^1/_2$—3 разы“.

Адной з рашаючых задач другой пяцігодкі з'яўляецца ўздым таваразвароту і транспарта. Выканаць гэтыя задачы магчыма толькі пры ўмове завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, прамысловасці, транспарта і сельскай гаспадаркі. Задача тэхнічнай рэканструкцыі ў праграме другой пяцігодкі пастаўлена ва ўсім аб'ёме ў адносінах усіх галін прамысловасці, усёй сельскай гаспадаркі і ўсіх відаў транспарта. У рэзультаце завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі к канцу другой пяцігодкі СССР зойме першае месца ў Еўропе па тэхнічнаму ўзроўню свайго развіцця. Але не толькі ў адносінах ўзроўню тэхнікі, але і ў адносінах размераў прамысловай прадукцыі, а таксама ў адносінах прадукцыі цэлага раду іншых асноўных галін народнай гаспадаркі Совецкі саюз будзе ісці ўперадзе ўсіх краін Еўропы.

Супастаўленне аб'ёму прадукцыі прамысловасці асабліва наглядна характарызуе намечаны размах тэхнічнай рэканструкцыі. Супроць 43 млрд. руб. прадукцыі ўсёй прамысловасці ў 1932 г. гэты аб'ём к канцу другой пяцігодкі ўзрасце да 92,7 млрд. руб., г. зн. наша прамысловасць павялічыць размеры сваёй прадукцыі больш, як у 2 разы. У параўнанні-ж з даваенным узроўнем аб'ём прадукцыі павялічваецца прыкладна ў 8 раз. У рэзультаце тэхнічнага пераўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі СССР і ўкаранення навейшых тэхніч-

ных дасягненняў, да 80 проц. усёй прадукцыі прамысловасці ў 1937 г. мы атрымаем з нашых новых прадпрыемстваў, пабудаваных або цалкам рэканструяваных за першую і другую пяцігодку. З усіх дзеючых сродкаў вытворчасці ва ўсёй народнай гаспадарцы к канцу другой пяцігодкі да 50—60 проц. будуць складаць сродкі, вытвараныя толькі за гады другой пяцігодкі.

Вядучай галіною рэканструкцыі народнай гаспадаркі з'яўляецца машынабудаўніцтва, якое ў сваю чаргу ў другую пяцігодку будзе значна рэканструявана. Перад машынабудаўніцтвам стаіць задача асвоіць у другой пяцігодцы да 200 тыпаразмераў навейшых станкоў. Гэта дасць магчымасць нанова перааб-сталяваць сучаснымі дасканалымі машынамі ўсе галіны народнай гаспадаркі. Гэта дасць нам магчымасць завяршыць у асноўным механізацыю ўсіх працаёмкіх і цяжкіх працэсаў прамысловасці. Па важнейшай галіне народнай гаспадаркі—каменавугальнай прамысловасці механізацыя зарубкі вугалю будзе даведзена да 93 проц. Па чорнай металургіі—да 80 проц. Чыгун будзе атрыман поўнасцю з механізаваных домен. Звыш 70 проц. агульнай здабычы торфу будзе атрымана механізаванымі спосабамі. Да 80 проц. будзе праведзена механізацыя здабычы мясцовых будаўнічых матар'ялаў. Рашуча будзе павялічана механізацыя асноўных лесазагатоўчых працэсаў. У 6 раз будзе павялічана механізацыя вывазкі, у 3 разы—механізацыя раздзелкі лесу і т. д. Будзе створана новая энергетычная база, што з'яўляецца адной з важнейшых умоў завяршэння рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі. Ва ўсіх энергетычных вузлах будуць створаны дастатковыя сілавыя магутнасці, якія павінны забяспечыць поўную бесперабойнасць электраснабжэння народнай гаспадаркі. У асноўным будзе завершана электрыфікацыя прамысловасці. Шырока будуць укаранены навейшыя электраёмкія метады вытворчасці ва ўсіх галінах прамысловасці, асабліва ў металургіі і хіміі. За гады другой пяцігодкі павінна быць поўнасцю ліквідавана адставанне чорнай металургіі. Магутнасць металургіі будзе павялічана ўдвая. Шырока будзе разгорнута вытворчасць якасных металаў, электрасталі, ферасплаваў, будуць асвоены складаныя профілі пракату ў размерах, цалкам задавальняючых патрэбнасці народнай гаспадаркі. Асабліва быстрыя тэмпы развіцця і тэхнічнага пераўзбраення намечаны ў каляровай металургіі, у якой будзе ажыццёўлен канчатковы пераход да сучасных спосабаў атрымання медзі і шырока ўкаранен у вытворчасць передавы электралітычны метад. У адносінах хімічнай прамысловасці будуць зроблены рашаючыя зрухі, у рэзультаце якіх, напрыклад, вытворчасць усіх відаў угнаенняў будзе павялічана ў 10 раз. Важнейшыя галіны, абслугоўваючыя спажыванне шырокіх працоўных мас у другой пяцігодцы, атрымаюць асабліва вялікае развіццё.

Найбольш яркае адлюстраванне тэхнічная рэканструкцыя прамысловасці знаходзіць у росце прадукцыйнасці працы і зніжэнні сабекошту. У поўнай адпаведнасці з размахам тэхнічнай рэканструкцыі намечан рост прадукцыйнасці працы і зніжэння сабекошту. Супроць 41 проц. росту прадукцыйнасці працы, якія мы мелі ў рэзультаце правядзення першай пяцігодкі, у канцы другой пяцігодкі прадукцыйнасць працы ў прамысловасці павялічыцца на 63 проц. Сабекошт па ўсёй прамысловасці ў сваю чаргу будзе зніжан на 26 проц.

Але побач з гэтым XVII з'езд партыі з усёй сілай і катэгарычнасцю ўказаў на задачу рэзкага палепшання якасці і асартымента прадукцыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Так, напрыклад, у адносінах вугалю будзе значна паменшаны процант попелу і серы, якія рэзка зніжаюць яго якасць. Гэта павысіць гатунковасць у металургіі, палепшыць якасць і павысіць так званы каэфіцыент карыснага дзеяння машын, павысіць якасць пражы, рэзка палепшыць якасць бавоўняна-папяровых і ільняных тканін, павялічыць удзельную вагу тонка-суконных і камвольных груп шарсцянай прамысловасці.

Рашэнні XVII з'езда ўказваюць на неабходнасць рашучага палепшання якасці прадметаў спажывання і прадуктаў харчавання. Павінна быць палепшана якасць прадукцыі мясной прамысловасці за лік павышэння адноснай колькасці свініны, каўбасных вырабаў, харчовага сала і т. д. Будзе значна палепшан асартымент і прадукцыя мылаваранай і мукамольнай прамысловасці.

Завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ў галіне сельскай гаспадаркі павінна будзе знайсці сваё адлюстраванне ў рэзкім павышэнні ўраджайнасці па ўсіх сельска-гаспадарчых культурах. З'езд асобую ўвагу звяртае на неабходнасць хутчэйшага аднаўлення і развіцця жывёлагадоўлі, што з'яўляецца цяпер такою-ж першачарговаю праблемай, якою была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая.

Будзе павялічана колькасць МТС— з 2.446 у 1932 г. да 6.000 у 1937 г. Гэта дасць магчымасць ахапіць МТС усе калгасы. Па такіх рашаючых відах механізацыі сельскай гаспадаркі, як колькасць трактароў, камбайнаў і аўтамабіляў, мы будзем мець выключна рэзкае павелічэнне. Так, калі ў 1932 г. трактарны парк раўняўся 2.225 тыс. конскіх сіл, то ў 1937 г. ён будзе павялічан у 3,7 разы і даведзен да 8.200 тыс. конскіх сіл. Парк камбайнаў будзе павялічан да 100 тыс. штук. Аўтамабільны парк будзе павялічан больш як у 12 раз і даведзен да 170 тыс. машын.

Сістэма агранамічных мерапрыемстваў атрымае самае шырокае разгортванне. Поўсямесна будуць уведзены правільныя севазвароты. Тры чверці ўсіх пасеўных плошчаў зернавых культур будзе засявацца чыста гатунковым насеннем. Да паловы пасеўнай плошчы будзе ахоплена зяблівым ворывам. У мэтах забяспечання павышэння ўраджайнасці будуць шырока прымяняцца хімічныя ўгнаенні. Так, напрыклад, пасевы бавоўны з азоцістым угнаеннем у другую пяцігодку будуць даведзены да 80 проц плошчы пасеву, супроць 6 проц. у першую пяцігодку. Па бураках—з 6 проц. будзе павялічана да 40 проц. і т. д. У рэзультаце завяршэння ў такі кароткі тэрмін нябачанай у свеце карэннай тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі мы будзем мець агромнае павелічэнне прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Патрабаванні, якія будуць прад'яўлены к транспарту, асабліва к чыгуначнаму, рэзка ўзрастуць. Так, з 169 млрд. тона-клм грузазвароту чыгуначнага транспарта ў 1932 г., у 1937 г. мы будзем мець павелічэнне яго да 300 млрд. тона-клм. Не менш рэзкае павелічэнне грузазвароту мы будзем мець і па рэчнаму транспарту, і па морскаму, і па аўто, і па авіятранспарту.

У чым выразіцца, напрыклад, рэканструкцыя чыг. транспарта? Будзе ажыццёўлена будаўніцтва раду новых буйнейшых чыг. ліній. Чыгуначная сець Савецкага саюза з 83 тыс. клм. (на 1 студзеня 1933 г.) будзе павялічана да 94 тыс. клм. (на першае студзеня 1938 г.). Акрамя будаўніцтва новых чыгунак на найбольш затрудненых магістралях будуць укладзены каля 9500 клм. другіх шляхоў. Будзе разгорнута шырокае будаўніцтва мастоў, рэканструяваны і развіты рад важнейшых чыг. вузлоў і станцый. На працягу 20 тыс. клм будзе праведзена замена лёгкага тыпу рэльс больш цяжкімі. Да 8.300 клм будзе абсталявана аўтаблакіроўкай, будзе зроблен значны пераход ад слабога пясчанага баласту да больш магутнага шчэбневага. Будзе павялічана колькасць шпал на 1 клм шляху і т. д. Гэта дасць магчымасць прапускаць па нашых шляхах больш магутныя і цяжкія лакаматывы, павялічыць вагу паяздоў і іх тэхнічную і камерцыйную хуткасць.

Асобай увагі заслугоўвае электрыфікацыя 5 тыс. клм чыг. ліній. Склад парка лакаматываў побач з яго рэзкім павелічэннем будзе рэканструяваны шляхам перахода да больш магутных і дасканалых тыпаў. У рэзультаце наш выдатны, адзін з лепшых у свеце, магутны паравоз „ФД", стане ў другой пяцігодцы асноўнай адзінкай таварнага паравознага парка, а яго сабрат — магутны паравоз „ИС"—асноўнай адзінкай пасажырскага парка.

Шырокае прымяненне знойдуць цеплавозы і электравозы. У адносінах вагоннага парка мы таксама, побач з павелічэннем ліку іх, будзем мець значную рэканструкцыю. Удзельная вага вялікагрузных вагонаў рэзка павысіцца ў параўнанні з 1932 г. Акрамя таго, усе вагоны будуць абсталяваны аўтотармазамі, і не менш паловы вагонаў будзе абсталявана аўтосцэпкай.

Правядзенне тэхнічнай рэканструкцыі на чыг. транспарце і павышэнне яго матар'яльна-тэхнічнай базы дасць магчымасць павялічыць прадукцыйнасць працы па чыг. транспарту на 43 проц. Рэканструкцыя, якая намячаецца па воднаму транспарту, у сваю чаргу павінна будзе

даць павелічэнне прадукцыйнасці працы не менш як на 36 проц.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі, крытыкуючы недахопы транспарта, асабліва чыгуначнага, указаў на тое, што „транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спаткнуцца, ды бадай ужо пачынае спатыкацца, уся наша эканоміка і перш за ўсё наш таваразварот“. Таму асабліва настойліва неабходна поўнае правядзенне тых элементаў рэканструкцыі транспарта, якія намечаны рашэннямі XVII з'езда. Тав. Сталін з усёй вострасцю падкрэсліў, што „задача разгортвання таваразвароту і рашучага палепшання транспарта з'яўляецца той чарговай і актуальнейшай задачай, без вырашэння якой мы не зможам рухацца ўперад“.

Каб больш наглядна паказаць значэнне тэхнічнай рэканструкцыі, прывядзем прыклад, які датычыць рэканструкцыі чыг. транспарта. Сашлемся для гэтага хоць-бы на значэнне ўкаранення электравозаў. У капіталістычных краінах у сілу наяўнасці прыватнай уласнасці, канкурэнцыі і анархіі вытворчасці, асабліва ў сучасны перыяд крызіса, электрыфікацыя чыг. транспарта не толькі не можа атрымаць свайго развіцця, але нават, наадварот, за апошнія гады праяўляе яўныя прызнакі да скарачэння. Толькі ў СССР магчыма шырокая электрыфікацыя чыг. транспарта. Толькі ў Совецкім саюзе—у краіне будуючагася соцыялізма—магчыма тая грандыёзная праграма тэхнічнай рэканструкцыі, якая прынята XVII з'ездам партыі.

Не гледзячы на ўсе перавагі электрыфікаванага чыг. транспарта, умовы капіталістычнага ладу ставяць непераможныя перашкоды яго развіццю. Перавагі электравоза перад паравозам зусім бясспрэчны. Так, для паравоза неабходна высокагатунковае паліва, каксуючыяся вуглі, нафта. Электравоз у гэтых адносінах менш патрабавальны. Ён дае магчымасць шырока выкарыстаць малакаларыйныя і менш каштоўныя віды мясцовага паліва, бо ён атрымлівае энергію з цэнтральных электрычных станцый, якія працуюць на такім паліве. Электравоз у сярэднім эканоміць на паліве не менш 50 проц. Мы не гаворым ужо аб тым, што ён дае 100 проц. эканомію пры ўжыванні энергіі ад гідра-электрастанцый. Акрамя таго, электравоз мае выдатную ўласцівасць—так званую рэкуперацыю. Што гэта значыць? Калі электравоз ідзе па ўклону, ён зварочвае затрачаную энергію. Акрамя таго, электравоз павышае правазную здольнасць чыгункі і дае магчымасць павялічыць тэхнічную і камерцыйную хуткасць у 2—3 разы. Электравозы з вялікай хуткасцю бяруць такія крутыя ўклоны, якія зусім недаступны паравозам. У нас, у Закаўказзі, дзякуючы электрыфікацыі, на труднейшым участку—на Сурамскім перавале — увесь грузазварот, з якім ледзь-ледзь спраўляюцца 65 паравозаў, цяпер, пры рабоце 21 электравоза, абганяе сваёй працаздольнасцю прымыкаючыя ўчасткі чыг. магістралі на паравой цязе. Вось гэта адзін з прыкладаў, якія малююць нам значэнне тэхнічнай рэканструкцыі, намечанай к завяршэнню ў другой пяцігодцы.

Гэты прыклад служыць нам адным з яркіх паказчыкаў таго, што наша краіна адкрывае багацейшыя перспектывы ўкаранення найвялікшых дасягненняў навукі і тэхнікі, у адрозненне ад капіталістычных краін, дзе ўсё часцей і часцей, усё гучней і гучней крычаць аб „гібельнасці“ навукі і тэхнікі, прэдаюць анафеме, праклінаюць машыны і складаюць рэакцыйныя планы пераходу да першабытнай „кіркі і лапаты“.

У свой час В. І. Ленін сказаў:

> „Комунізм—гэта ёсць совецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны“ (т. XXIV, стар. 46, выд. 2).

Тут вельмі важна ўказанне на тое, што гутарка ідзе аб электрыфікацыі ўсёй краіны. Тав. Сталін у сваёй прамове на пленуме ЦК ВКП(б) у 1928 г., гаворачы аб індустрыялізацыі краіны, палічыў неабходным спецыяльна спыніцца і развіць гэтае ўказанне Леніна:

> „Пад электрыфікацыяй краіны, — раз'ясняе тав. Сталін,—Ленін разумее не ізаляваную пабудову асобных электрастанцый, а паступовы „перавод гаспадаркі краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснай буйнай вытворчасці“, звязанай так ці інакш, проста ці ўскосна, са справай электрыфікацыі“ (І. Сталін, Пытанні ленінізма, стар. 465, выд. 4, 1931 г.).

Завяршэннем тэхнічнай рэканструкцыі, намечанай у праграме другой пяцігодкі,

мы ўшчыльную падыходзім да выканання гэтага важнейшага ўказання Леніна.

Рэканструкцыя народнай гаспадаркі, якая будзе завершана ў другую пяцігодку, рэзка павялічыць прадукцыйнасць працы і знізіць сабекошт прадукцыі.

„Прадукцыйнасць працы, — гаворыць Ленін (т. XXIV, стар. 342)—гэта ў апошнім выніку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу. **Капіталізм стварыў прадукцыйнасць працы нябачаную пры прыгонніцтве, капіталізм можа быць канчаткова пераможан і будзе канчаткова пераможан тым, што соцыялізм створыць новую і значна больш высокую прадукцыйнасць працы**“.

І па гэтай лініі, па лініі прадукцыйнасці працы, якая забяспечваецца намечанай рэканструкцыяй, укараненнем новай тэхнікі, другая пяцігодка намячае грандыёзныя задачы.

Каб перагварыць усё працоўнае насельніцтва нашай краіны, кабператварыць калгаснае сялянства ў свядомых і актыўных будаўнікоў бясkласавага соцыялістычнага грамадства, для гэтага неабходна падвесці тэхнічную сучасную базу, для гэтага неабходна правесці поўную тэхнічную рэканструкцыю ўсёй нашай народнай гаспадаркі. Не трэба забываць, як указваў В. І. Ленін, што

„справа перапрацоўкі дробнага земляроба, перапрацоўкі ўсёй яго псіхалогіі і навыкаў—ёсць справа, патрабуючая пакаленняў. Вырашыць гэта пытанне ў адносінах да дробнага земляроба, аздаровіць так сказаць усю яго псіхалогію, можа толькі матар'яльная база, тэхніка, прымяненне трактароў і машын у землеробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе“.

Рашаючы крок уперад у гэтым напрамку і ажыццяўляецца праграмай вялікіх работ другой пяцігодкі.

У рашэннях XVII з'езда ВКП(б) гаворыцца:

„Пролетарыят, кіруемы ленінскай партыяй, пераканаў мільёны сялянства ў перавазе калектыўнай вытворчасці і стварыў у вёсцы новы калгасны лад. Перамогі ў развіцці прамысловасці абумовілі гіганцкія поспехі па пераводу сельскай гаспадаркі на рэйкі магутнай тэхнікі. СССР стаў краінай самай буйнай у свеце сельскай гаспадаркі“.

Такім чынам, мы бачым, што тая рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, якую мы мелі ў першую пяцігодку, створаная на аснове індустрыялізацыі нашай краіны, памагла пролетарыяту і яго авангарду—партыі—пераканаць мільёны сялян у перавазе новых соцыялістычных форм вядзення гаспадаркі. А гэта-ж і з'яўляецца лепшым довадам, лепшай ілюстрацыяй усёй праваты таго геніяльнага прадбачання, якое было выказана Леніным.

Яшчэ ў 1919 г. у сваёй прамове на першым з'ездзе землеробчых комун і сельска-гаспадарчых арцелей В. І. Ленін указаў:

„Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадскай, калектыўнай, таварыскай арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочы клас, які трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа селяніну сваю праваты, сапраўды прыцягне на свой бок трывала і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу. Толькі калі практычна на вопыце, блізкім для сялян, будзе даказана, што пераход к таварыскаму, арцельнаму землеробству неабходзен і магчым, толькі тады мы ўправе будзем сказаць, што ў такой аграмаднай сялянскай краіне, як Расія, па шляху соцыялістычнага землеробства зроблен сур'ёзны крок“. (т. XXIV, стар. 579—580).

Пролетарыят пад кіраўніцтвам сваёй партыі і яе геніяльнага правадыра тав. Сталіна даказаў на справе, практычна перавагі буйнага машыннага абагуленага землеробства. Ужо дзве трэці сялянскіх гаспадарак пераведзены на новыя соцыялістычныя рэйкі. Ажыццяўленне вялікай праграмы другой пяцігодкі—завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі дасць магчымасць усё шматмільённае працоўнае сялянства перавесці на гэтую новую вышэйшую базу.

Ажыццяўленне разгорнутай тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, прамысловасці, транспарта і сельскай гаспадаркі будзе той базай, якая дасць магчымасць ажыццявіць асноўную палі-

тычную задачу другой пяцігодкі. Яна будзе матэрыяльна-тэхнічнай базай пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Іменна таму, як гаворыцца ў рашэннях XVII з'езда партыі,—асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі".

Праграма пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, намечаная гістарычным дакладам правадыра партыі тав. Сталіна, ва ўвесь рост падымае і ставіць перад пролетарыятам задачу агромнай складанасці і важнасці—перавыхаваць мільёны працоўнага сялянства. Ленін упорна прыкоўваў да гэтай задачы ўвагу партыі, абрысоўваючы ўсю складанасць і труднасць гэтай задачы.

Ленін, развіваючы мысль Маркса, пісаў:

„Пры дыктатуры пролетарыята прыдзецца перавыхоўваць мільёны сялян і дробных гаспадарчыкаў, сотні тысяч служачых, чыноўнікаў, буржуазных інтэлігентаў, падпарадкаваць іх усіх пролетарскай дзяржаве і пролетарскаму кіраўніцтву, перамагаць у іх буржуазныя прывычкі і традыцыі", таксама як неабходна будзе „...перавыхаваць у доўгай барацьбе на глебе дыктатуры пролетарыята і саміх пролетарыяў, якія ад сваіх уласных дробна-буржуазных забабонаў пазбавяцца не адразу, не цудам, не па вяленню божае маткі, не па вяленню лозунга, рэзалюцыі, дэкрэта, а толькі ў доўгай і цяжкай масавай барацьбе з масавым дробна-буржуазным уплывам" (т. XXV, стар. 247 і 248).

Указанне на неабходнасць гэтай выключна складанай і цяжкай задачы перавыхавання сялянства пролетарыятам, а з другога боку—перавыхаванне самога пролетарыята было развіта Леніным на аснове тых геніяльных указанняў, якія былі даны яшчэ Марксам.

XVII з'езд паставіў задачу канчатковай ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул, перамогу пераҗыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Матэрыяльнай базай, тэхнічнай асновай ажыццяўлення гэтай грандыёзнай задачы будзе завяршэнне разгорнутай тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі. Адною з важнейшых рашаючых умоў выканання гэтай задачы павінна з'явіцца асваенне новай тэхнікі і новых вытворчасцей. „Пафас новага будаўніцтва..." павінен быць дапоўнен у другой пяцігодцы „пафасам асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным павышэннем прадукцыйнасці працы, сур'ёзным скарачэннем сабекошту". Дзе гарантыя выканання гэтай задачы? Гарантыя выканання гэтай задачы заключана ў небывалым адзінстве, у стальной маналітнасці нашай партыі, у вернасці і правільнасці сапраўды-ленінскай лініі кіраўніцтва яе ЦК на чале з тав. Сталіным.

## Літаратура


1. Ленин—„Речь на первом с'езде земледельческих коммун и с.-х. арцелей 4/XII 1919 г." т. XXIV, вып. 2 або 3.
2. Ленин—„О продовольственном налоге", т. XXVI, вып. 2, або 3.
3. Сталин—„К вопросам аграрной политики" (прамова на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў. 27/XII-29 г.)
4. Сталін—Справаздачны даклад на XVII з'ездзе ВКП(б).
5. Молатаў—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б).
6. Куйбышэў—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б).
7. Рэзалюцыя XVII з'езда ВКП(б) па дакладах тт. В. Молатава і В. Куйбышэва.


*Рэдакцыя: Рэдкалегія*

Гарліт № 1108, Гомель. Зак. № 2102—1500 экз. друк. „Палесдрук"

